# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 50 Н. ФЭН.

**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 д. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай аднаго нумару газэты каштуе дадаткова:** у ЗША і Канаду — 40 фэнігаў (10 ам. цэнт.); у Аргентыну — 70 фэн. (17 ам. ц.); у Аўстралію — 90 фэн (22 ам. ц.). Падвойныя нумары каштуюць падвойна.

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

| LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„ |
|---|---|---|

№ 11-13 (397-399) Дзень Незалежнасьці, 25 Сакавіка 1958 г. ГОД ВЫДАНЬНЯ 12


# 1918 25 Сакавіка 1958

# МАНІФЭСТ

## Рады Беларускай Народнай Рэспублікі

**БЕЛАРУСКІ НАРОДЗЕ!**

Сорак год таму, на векапомным гістарычным паседжаньні Рады Беларускае Народнае Рэспублікі ўначы з 24 на 25 сакавіка 1918 году, воляю Тваёю была абвешчаная поўная незалежнасьць і сувэрэннасьць Твае дзяржавы — Беларускае Народнае Рэспублікі — БНР.

Надосьвітку 25 сакавіка сьвежыя граматы на сьценах муроў сталіцы, ранішнія газэты, адмысловыя лістоўкі несьлі вялікую радасную вестку, што ад тае начы пала «з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнае залежнасьці, якое было накінутае рускімі царамі на наш вольны й незалежны край».

Тае-ж раніцы Урад БНР разаслаў тэлэграмы ўрадам краёў усяго сьвету, у якіх паведамлялася й ім, што на прасторы былых царскіх губэрняў — Віленшчыны, Горадзеншчыны, Меншчыны, Магілеўшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны ды сумежных зь імі частак этнічных беларускіх земляў — беларускі народ стаецца самастойным сувэрэнным гаспадаром.

Усім, і сваім і чужым, маладая рэспубліка яшчэ раз урачыста пацьвярджала «ўсе тыя правы й вольнасьці грамадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаныя Устаўнай Граматай ад 9-га сакавіка 1918 г.» — адным зь першых заканадаўных актаў, што сфармуляваў асновы канстытуцыі дзяржавы яшчэ перад абвешчаньнем ейнае незалежнасьці.

Яна пацьвярджала, што ў межах БНР —

> дзеіць «агульнае, роўнае, простае, патаёмнае й прапарцыянальнае выбарчае права, не зважаючы на род, народнасьць і рэлігію» (§ 2 канстытуцыі);
>
> «абвяшчаецца свабода слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў; бязумоўная свабода сумленьня, незачэпнасьць асобы й памешканьня» (§ 5 канстытуцыі);
>
> «усе народы маюць права на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію, абвяшчаецца роўнае права ўсіх моваў народаў Беларусі» (§ 6 канстытуцыі);
>
> «зямля перадаецца бяз выкупу тым, што самі на ёй працуюць. Лясы, вазёры й нутро зямлі абвяшчаюцца ўласнасьцяй Беларускае Народнае Рэспублікі» (§ 7 канстытуцыі);
>
> «устанаўляецца найбольшы 8-гадзінны рабочы дзень» (§ 8 канстытуцыі).

Гэтак, у геаграфічным цэнтры Эўропы, на прасторы, прыблізна роўнай Францыі, паўставала нанова да жыцьця Беларуская Дзяржава з 20-мільённым жыхарствам.

Па сто дваццаць пяцёх гадох нанова зарысоўваліся контуры гаспадарства народу, што калісь на працягу больш за паўтысячы год быў апошнім вязьмом заходня-эўрапэйскае цывілізацыі, гранічным бар'ерам перад агрэсыўнаю, свабоданенавідніцкаю й свабодагубнаю Масквою.

Ды тымчасам, калі ў ваднаўленай беларускай дзяржаве народ, натхнёны духам свабоды й гуманнасьці, успадкаемленай ад прашчураў сваіх, з энтузіязмам браўся за адбудову палітычна-грамадзкага ладу — кіруючыся прыроднымі й Боскімі законамі братняе любові-справядлівасьці — у гэнай Маскве ўсталёўвалася новая ўлада бязбожных тыранаў, фанатычных злосьнікаў і ненавіднікаў свабоды.

Заняўшы пасад цароў-дэспатаў, яны цьвёрда наважылі разбурыць маладую Беларускую Народную Рэспубліку, каб народ беларускі зноў падпарадкаваць бяссупярэчнаму паслухмянству крамлёўскім «указам».

Ужо адразу-ж па свабодным выяўленьні волі беларускага народу на Ўсебеларускім Кангрэсе ў сьнежні 1917 г. яны пазрадніцку напалі на народных абраньнікаў, што задэклярвалі жаданьне свайго даверніка-народу стварыць дэмакратычную Беларускую Народную Рэспубліку.

Ды пераканаўшыся ў непахіснасьці й нязломнасьці волі свабодалюбнага беларускага народу, па годзе зь лішнім часу — 1 студзеня 1919 г., у беларускім Смаленску — яны прагалошваюць другую «беларускую рэспубліку» — БССР — савецкую гора-дзяржаву ў тых-жа, што й БНР, этнаграфічных межах Беларусі.

Беларускі народзе, шмат каму яшчэ ў памяці тыя дні, калі везьлі гэны смаленскі «беларускі» ўрад на бранявіках у Менск пад аховаю гарматаў і штыхоў мільённых роішчаў маскоўскіх чырвоных «вызвольнікаў».

У памяці й тыя трагічныя дні, калі Ты, народзе, сьмела й адважна, із зброяй у руках выходзіў супраць новага акупанта — тады й ці раз пасьля, як ахвярна й гэраічна дала бой навале з Усходу слаўная Слуцкая дывізія, як зацята й непахісна змагаліся тысячныя й дзесяцьтысячныя аддзелы Лепельшчыны, Барысаўшчыны, Віцебшчыны, Пскоўшчыны... Ды абараніць свой край, сваю дэмакратычную Рэспубліку перад гвалтоўнаю пераВагаю дзікое сілы ня судзілася Табе...

Беларусь была заваяваная, Ты зноў апыніўся ў палоне. Акупант абвесьціў Раду й Урад БНР «вонках закону», ды гэтак-жа «вонках закону» пастаўлены быў і увесь Ты, Беларускі народзе.

Зьдзек і глум у жывыя вочы стаўся найвышэйшым законам і правам у гэтага зрадлівага й цынічнага акупанта.

Агаласіўшы ў Смаленску БССР у этнаграфічных межах Беларусі, ён увесь час ганебна маніпулюе й гандлюе на ўсе бакі беларускімі землямі, найвялікшую частку іх, разам із тым гістарычным Смаленскам, проста прырэзаўшы да свае Расеі.

Заміж раўнапраўнасьці моваў усіх народаў Беларусі, гарантаванае законам БНР, гвалтам накідаецца акупантава мова расейская, пры дыскрымінацыі й паняверцы над роднаю мовай Тваёй, Беларускі народзе.

Заміж забясьпечанага законам БНР дэмакратычнага выбарчага права ўсім грамадзянам — акупант — «выбірае» сваім «указам» з Крамля сваіх-жа «кандыдатаў» ды, агідна зьдзекуючыся з права й свабоды, гоніць гвалтам народ да «урнаў» кідаць туды ўпіханыя ў рукі казённыя аднастайныя «бюлетэні».

Заміж свабоды слова й друку для ўсіх — ён знае права голасу толькі для падгалоскаў камунізму.

Заміж свабоды сходаў — ганяюць усіх слухаць ды пляскаць на прамовы-навучаньні ненавісных Табе бальшавіцкіх прапагатараў.

Заміж свабоды хаўрусаў, забастовак, як забясьпекі ад вызыску, эксплыятацыі працы — увагнаны аж у косьці страх нат падумаць аб гэткім, жорсткай кары годным «буньце» супраць акупанта.

Заміж зямлі бяз выкупу — выкуп крывавымі «працаднямі» скарынкі хлеба ў ваднаўленай паншчыне-прыгоне калгасаў.

Заміж найбольшага 8-гадзіннага працоўнага дня — выціскальная стаханаўшчына, найжахлівейшая сыстэма эксплыятацыі работніка.

Заміж запэўненай законам БНР свабоды сумленьня, незачэпнасьці асобы й памешканьня — паўнаўладнымі гаспадарамі кажнае хаты, кажнае сям'і, кажнае адзінкі паставілі зьвярўжных чэкістых, аддаўшы ў іхныя рукі ўсю Тваю долю, усё Тваё жыцьцё — нат бяз права законнае судовае абароны — усяго Цябе, Беларускі народзе.

Гэткія вось «законы», гэткія парадкі прынёс акупант заміж забясьпечанай канстытуцыяй законнасьці й ладу Беларускае Народнае Рэспублікі.

Сорак год таму ўзьняўшы меч і біч на Цябе ды ўжо трыццаць восем год як бязупынна імі Цябе катуючы, бязьлітасны акупант вынішчыў ды ўсьцяж вынішчае лепшых і найадданьнейшых дзяцей Тваіх, Народзе.

Тысячы сьвятароў із сваймі найвышэйшымі герархамі выгубленыя адно за тое, што несьлі Табе Слова Божае.

Дзесяткі тысячаў найвыдатнейшае нашае культурнае й палітычнае эліты выкатаваныя адно за тое, што верна служылі Табе, Народу свайму.

Панад тры мільёны працоўных, сялянаў і работнікаў, вырваныя з роднага карэньня свайго пакутаваць ды гінуць па катаргах, концлягерах, турмах адно за тое, што любілі Бацькаўшчыну сваю, што не даваліся дабраахвотна няволю прыняць.

Азьвярэлыя ў скрайнім садызьме, крамлёўскія апрычнікі не здавальняюцца пры гэтым адным толькі забойствам-зьнішчэньнем.

Перад забойствам сьвятара — катаваньнямі змушаюць яго публічна перад народам выракчыся Бога, ганьбіць Яго й сябе самога.

Перад зьнішчэньнем пісьменьніка, паэты, вымучваюць зь яго песьні славы тыранам сваім.

Перад ліквідацыяй палітычных і грамадзкіх дзеячоў вырываюць у іх паклёпы на сябе, як на бязыдэйных ды прадажных агентаў-«шпіёнаў», «дывэрсантаў» чужых дзяржаваў.

Заўсёды перад фізычным зьнішчэньнем чалавека намагаюцца як мага вырваць, спаганіць і зьнішчыць душу яго.

Гэтак жудаснымі катаваньнямі — заганяньнем голак пад пазногці, цкаваньнем голых людзей муштраванымі сабакамі, прыпяканьнем гарачым зялезам, электрыкай ды рознымі іншымі прыхваткамі ўдасканальненай чэкістаўскай тэхнікі змусілі ня мала нашых выдатных талентаў зьневажаць слаўную мінуўшчыну народу ды ўзвышаць крывяжэрных ягоных тыранаў.

Пад гэткім страхам забаранілі нашым пісьменьнікам і паэтам успамінаць славутую старавечную беларускую культуру, загадаўшы адно ўслаўляць уяўны гэні й вычыны духу «старэйшага брата — вялікага рускага народу».

Паразбуралі старадаўныя помнікі — сьветкі цывілізацыі, вышэйшай за тагэ «брата» — ды запрыгонілі беларускіх скульптараў ляпіць і стаўляць ма-


**(Заканчэньне на 2-ой бачыне)**


*Натальля Арсеньнева*

## Тваё імя

Маці родная, маці краіна.
Ня суцішыцца гэтакі боль.
**М. Багдановіч**

О, Беларусь,
о, Беларусь мая!
Тваё імя — такі пякучы сымбаль болю!
Ды шчыра ўсьцяж яго
багаслаўляю я:
ізь ім я —
чалавек,
у долю і ў нядолю.
Пранізанае ім, маё жыцьцё брыдзе,
маўляў мяжой ціхой,
ярамі вуліц змрочных,
і не баліць мне, што вітае дзень
мяне чужою мовай,
а чужымі снамі — ночы...
Дзіўны ён, гэты боль,
і дзіўна лёгка зь ім:
прысыпаўшы пяском друз прагі і завісьці,
ён
раньнямі мяне ды мескай мітусьні
няспынную кіпень
мяккой лагодай хрысьціць.
Ён
зьмеркамі зь мяне пясьціва ўмее зьняць
важкую стому, кроў
зайскрыць узноў да працы,
зьняверу,
там, на дне,
даўкія крыўды дня
пайрваць,
каб ім і мне як разам не зыйграцца.
І сны —
мне явай скрозь.
а сяньня явы — сон,
ссыпаецца з душы лушпіньне людзкай зьвягі...
Імкліваю Вяльлёй пяе сівы Гудзон,
Трохкрыжжам белым таюць небасягі...
І ўскласьці я хачу на струны,
як Баян,
шнур пальцаў — лебядзёў,
і граць,
і граць з жадою,
О, Беларусь,
о, Беларусь мая,
Паўз боль пякучы граць
Табе,
Табою!

# Маніфэст

## Рады Беларускай Народнай Рэспублікі

**(Заканчэньне зь 1-ай бач.)**

…умэнты тыранаў народу нашага — …розных Грозных, Пятроў, Сувораваў …ы ўсялякіх бальшавіцкіх бажышчаў, …найноўшых катаў народаў.

Павывозілі зь Беларусі багатыя архівы гістарычных дакумэнтаў, што сьветчылі аб магутнасьці й культуры незалежнай калісь Беларускай Дзяржавы, а беларускіх вучоных змушаюць ілгаць аб сваім народзе й ягоным гаспадарсьцьве, якога быццам і «ня было ніколі», настырліва ўводзячы ў вушы жывую й нахабную ману аб «упяршыню падараванай беларускаму народу бальшавікамі» дзяржаўнай незалежнасьці БССР — гэтай зьдзеклівай карыкатуры на самастойнае гаспадарства.

**Беларускі Народзе!**

Трыццаць восем год Ты цярпеў і церпіш нячуваны яшчэ ў гісторыі тэрор, зьдзек і паняверку над сабой. Нявымоўныя мукі фізычныя й маральныя зносіш Ты ад тыранаў. Але ў гэтым, Народзе, і веліч гэраізму Твайго.

Падбіты фізычна, Ты не зламаўся маральна.

Зьняволеныя паэты й пісьменьнікі, прарокі Твае, ці раз выбухалі гордым і сьмелым бунтарствам супроць паняволыніка. Адважная моладзь Твая ці раз хапалася зброі на ката Твайго.

Трыццаць восем год, як упалонены мужны ваяр, застаешся Ты ў веры й пэўнасьці ў нямінучасьці вызваленьня свайго.

Шматпакутны Беларускі Народзе ў краі, на ссылках, на выгнаньні, — у дзень саракавых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі Рада й Урад Беларускае Народнае Рэспублікі горача вітае Цябе й заклікае й надалей захоўваць сілу духу, станаўкосьць мудрасьць.

Ты ведаеш добра, Народзе, што Ты цяпер не адзін, што ёсьць у Цябе дзесяткі верных сяброў і саюзьнікаў, гэтак-жа ўпалоненых, тым-жа тыранам зьняволеных іншых народаў.

Ты ведаеш, што Твая законная ўлада — Рада й Урад Беларускае Народнае Рэспублікі — трыццаць восем год верна й непахісна трымае ў вольным сьвеце ў руках сваіх штандар волі — незалежнасьці Твае.

Ты ведаеш, што дзесяткі тысячаў сыноў і дачок Тваіх на выраі ў вольным сьвеце, верныя запаветам Тваім, нясуць чулую старожу й памогу Табе.

Ведай-жа, што й цэлы вольны сьвет сяньня што раз, то пільней, што раз, то глыбей узіраецца ды прыглядаецца да гэраізму Твайго, што далей, то ўсё больш прасякаецца спачуваньнем і спагадай Табе, усё мацней праймаецца ненавісьцяй да тырана Твайго — ворага ўсяго чалавецтва.

Дарагія браты й сёстры ў вольным сьвеце! Рада й Урад Беларускае Народнае Рэспублікі палка заклікаюць Вас усіх яшчэ шчытней задзіночыцца пад сьцягам БНР. Клічам Вас да яшчэ большае ахвярнасьці, да яшчэ больш зацятага б е с к а м п р а м і с н а г а змаганьня з нашым лютым ворагам — бальшавізмам.

Рада й Урад Беларускае Народнае Рэспублікі зварачаюцца таксама да ўсячэснага духавенства ўсяго вольнага сьвету з просьбай памаліцца сяньня Ўсемагутнаму, каб даў Ён палёгку цярпеньням народу беларускага ды наблізіў дзень ягонага вызваленьня.

Рада й Урад Беларускае Народнае Рэспублікі зварачаецца з палкім заклікам да ўсіх пісьменьнікаў, журналістых, пракокаў маралі й справядлівасьці, голасу сумленьня Вольнага Сьвету — сказаць важкае слова сваё ў вабарону шматпакутнага беларускага народу.

Рада й Урад Беларускае Народнае Рэспублікі спадзяецца моцна пачуць і ад палітыкаў, дзяржаўных мужоў народаў цывілізаванага й шчасьлівага Вольнага Сьвету іхнае цьвёрдае слова тырану, што гэтак бязьлюдзка гнобіць народ наш і гэтулькі іншых мільёных народаў.

**Няхай жыве вольная й незалежная Беларуская Народная Рэспубліка!**

**Няхай жыве Беларускі Народ у змаганьні!**

**Няхай жыве братэрства й любоў між усіх вольных, роўных і незалежных народаў сьвету!**

**Зьгінь, тыранія!**

**Мікола Абрамчык**
**Прэзыдэнт**
**Беларускае Народнае Рэспублікі**

**У Нью-Ёрку, ЗША**
**25 сакавіка 1958 г.**

# „Пакінем спадчыну мы для патомкаў…“

«… Тое, што ўзята маною дачэсьне,
Вечна ня будзе душыць, як прыгон;
Наша вярнуцца к нам мусіць [канечне, —
Гэткі ўжо быту народаў закон.»
(Я. Купала «Годзе»).

Першыя нясьмелыя крокі… імкненьні ўперад… заломы, трывогі й сьлёзы… узрывы, трыумфы й …спады; жах, беспрасьветны адчай…

Праблескі надзеяў… мацнейшыя ўздымы, безьліч ахвяраў, зрады, мана, ашуканствы… новыя турботы, натугі трываньня… — жыцьцё, гісторыя.

Жыцьцё, гісторыя — гэта ўчора, сяньня й …заўтра. І тады, і цяпер, і пазьней — дні, гады, вякі…

Вякі — гады, гады — месяцы, а іх дванаццаць, з году ў год… З году ў год — студзень, люты, сакавік і …кастрычнік… Адвечныя назовы, адвечны кругазварот.

Сакавік… Кастрычнік…

Сьвятло, сонца, роскві ды радасьць жыцьця… Панурыя цені хмараў, сьцюдзёныя подыхі ледзяных аковаў, заміраньня… Сакавік не Кастрычнік, о не!

Сакавік, 25-ы дзень Сакавіка, Дзень Дабравешчаньня, — дзень адраджэньня Беларускае свабоднае й самастойнае дзяржавы — Беларускае Народнае Рэспублікі.

Кастрычнік, дваццаць пяты ягоны дзень (што за гіронія лёсу, хай і па старому стылю, а 25-ы!) пачатак нячуванага зьдзеку, прыгнобленьня, пакутаў, што трываюць ужо сорак год!

25-ы дзень кастрычніка — пачатны дзень аблуды, непярасяжнае маны й хвальшу.

«… Толькі, дзякуючы Вялікаму Кастрычніку беларускі народ, пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі…»

— Мана!

«… Толькі Вялікі Кастрычнік зьдзей- [сьніў…»

— Хвальш!

«… Дзякуючы Кастрычніку… зь вялі- [кім братнім…»

— Аблуда!

І гэтак бясконца: кастрычнік, кастрычніку, каб не кастр… Тож-бо-то: каб…

Сакавік быў, ёсьць і будзе перш за кастрычнік — каляндар! Сакавік прынёс самастойнасьць, свабоду; кастрычнік — зманлівы міраж, шыльд дзеля акілзаньня свабоды — жыцьця!

А тое «каб»?

— Каб не Сакавік, то ня было-б навет і шыльду.

— Каб не кастрычнік, шыльд быў-бы непатрэбны. Дзень не патрабуе вывескі, што гэта дзень, яго бачыць кажны й так. Колькі-б не паліць газовак, вогнішчаў ці ліхтароў, замяніць сонечнае сьвятло нельга. Яно, радаснае, жыцьцёдайнае, хаваецца часова, а трывае ад веку.

Сакавіковыя праменьні свабоды, што ўзыйшлі 40 год таму над нашым краем і народам, зацьміліся чужынецкімі барбарскімі заслонамі часова. Яны, праменьні, жывуць ды прабіваюцца праз цемру, каб ізноў, зь яшчэ большай сілай, асьвяціць нашу родную зямельку. І гэта будзе, мусіць быць, бо Сакавік не кастрычнік, бо да Сакавіка 1918 г. беларускі народ прагнуў аднаго: «людзьмі звацца», а цяпер:

«… Мы ўжо ня тыя, — інакшыя думы
Вырасьлі з намі, завуць к барацьбе…»

Інакшыя вырасьлі й людзі. Перасталі быць «тутэйшымі». Цяпер, ці ў прагандляванай «апякунамі» Беласточчыне, ці ў імглістай Брытаніі, гарачай Аргентыне, Вэнэцуэлі, далёкай Аўстраліі, ці ў магутных ЗША — усюды гучыць ды славіцца імя Беларусі й Беларуса.

Беларускае роднае слова, ганянае, заганянае, сілком ніцаванае ды набліжанае да чужых узораў жыло, жыве й:

«будзе вечна жыці,
Грамадой мільёнаў з сьветам гама- [ніці»

У сябе дома, у забраным краі ды ў шырокім вольным сьвеце. Няволя ніколі й нідзе ня была вечнай. Усяму прыходзіць свой канец, дык і

«… Сьціхнуць віхры, заціхне пара [непагодная,
Сілы грозныя ўстануць, акрэпнуць к [другому жыцьцю;
Панясуцца, як звон, песьні вольныя, [родныя,
Апяваючы долю, нядолю, народзе, [тваю.»

Сорак год трывае ходаньне за быцьцё беларускага народу, як народу. Прыймала яно й прыймае розныя формы й характар, ня выключаючы й збройных узрываў.

Наймагутнейшай нашай зброяй у сучасных умовах ёсьць нясупыннае тварэньне нацыянальных вартасьцяў усюды, дзе-б не апынуліся беларускія людзі.

Тварэньне моцных дапамаговых, палітычных, эканамічных, навуковых, мастацкіх, рэлігійных беларускіх арганізацыяў і калектываў; выхаваньне моладзі ў родным духу, разьвіваньне ды ўзбагачваньне радзімаведы, літаратуры, мастацтва, прабіваньне дарогі да ўдзелу ў чыннасьці ўсіх, дзе толькі можна, агульных гэтага тыпу інстытуцыяў, арганізацыяў тых дзяржаваў, дзе расьселены Беларусы — найважнейшыя заданьні нашае эміграцыі.

На падобныя высілкі цяпер, пасьля 40 гадоў змаганьня, мы можам здабыцца, бо цяпер «…мы ня тыя.»! За апошнія гады зроблена шмат і робіцца далей. Ня трэба адно затрымоўвацца на здабытых пазыцыях, а імкнуцца ўсьцяж наперад, далей…

«… Пакінем спадчыну мы для [патомкаў
Інакшую ад тэй,
Што ўзялі ад продкаў на абломках
Гісторыі сваей.»

**Г. Няміга**

# „Мангольскі праект“

**(Калі яшчэ «Грамады» ня было…)**

Кажная зьява мае свае прычыны, і разумець іх — гэта разумець зьяву.

✶

Пра «Грамаду» ў нас пісалася шмат — цікавага й навучальнага. Аднак найчасьцей, калі пісалася, дык наўвеце была зьява, што **ўжо** існавала. Але-ж якая была ідэя, што спарадзіла яе, дзе былі ейныя прычыны? Адказу на гэта пакуль што ніхто ня даў: адныя не маглі, іншыя ня ўмелі.

✶

У выдавецтве мюнхэнскага Інстытуту Вывучэньня СССР ды ў ньюёркаўскім выдавецтве „Scarecrow Press, Inc.“ выйшла нядаўна праца праф. Ант. Адамовіча «Супраціў саветызацыі ў беларускай літаратуры» (паангельску). У кнізе шмат дэталяў і няведамых дагэтуль фактаў зь літаратурнага жыцьця БССР ды з палітычнага жыцьця беларускае сталіцы. У кнізе, між іншага, расказана й пра «Мангольскі праект» — драматычны пачатак пазьнейшае катастрофы.

✳

У 1922 г. у Польшчы былі праведзеныя выбары ў сойм. Беларускі рух у Заходняй Беларусі выказаў у гэтай пробе сваю жыцьцяздольнасьць і палітычную сьведамасьць. Бальшавікі не маглі не дагледзець гэтага. Аднак дзеля таго, што ў Заходняй Беларусі разам з палітычнай сьведамасьцяй выказаўся й здаровы нацыянальна-палітычны розум, у бальшавікоў напрошваўся просты высnaў: выкарыстаць гэты патэнцыял супраць Польшчы, а пасьля зьнішчыць. У бальшавізьме мерка антыбеларускасьці й антыпольскасьці вызначаецца ў залежнасьці ад антыбальшавіцкасьці беларушчыны й польшчыны.

✳

На другім канцы Савецкага Саюзу ў 1921 годзе быў прылеплены ахоўны буфэр: створаная пад выглядам незалежнага гаспадарства й замацаваная пасьля пад пратэктаратам Масквы Мангольская Народная Рэспубліка. Калі беларускі незалежніцкі рух пачаў рабіцца загрозай бальшавіком, у гэтых апошніх зьявілася камбінацыя: чаму-б не падсунуць Беларусам ідэю зрабіць зь Беларусі таксама «буфэр» — гэтым разам на Захадзе сацыялістычнае дзяржавы. Адсюль — «мангольскі праект».

Схэма: у Заходняй Беларусі ўздымаецца антыпольскае паўстаньне; БССР «паўстае» таксама ды йдзе на памогу сваім заходнім братом; дзьве часткі Беларусі зьліваюцца ў вадну дзяржаву, пры чым Усходняя Беларусь карыстае з права свабоднага выхаду з Савецкага Саюзу; незалежная Беларусь зварачаецца да СССР з просьбай аб пратэктарацe й атрымоўвае яго.

Як наіўна ні выглядае усё гэта цяпер, у Менску тады яно шмат каму здалося рэальным, асабліва моладзі.

✳

У міжчасе заходнябеларуская прэса пачала вытыкаць, што бальшавікі разглядаюць вялікую частку беларускае этнічнае тэрыторыі як «чыста расейскую зямлю». Перад гэтым яшчэ праблема гэтая колькіразова ставілася на парадак дня Камуністычнай партыяй Беларусі, аднак бязь ніякіх пазытыўных вынікаў.

**(Заканчэньне на 3-яй бачыне)**

# «Узыходзіла сонца незалежнае Беларусі»

**ДА АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ 25-ГА САКАВІКА 1918 Г.**

**(Успаміны)**

З таго часу мінула ўжо 40 год. Часта даецца, што гэта было ўчора, адылі розныя драбнейшыя стацьці, а таксама некаторыя асобы выпалі з памяці.

На пачатку зімы 1917 году, дзякуючы стараньням братоў Луцкевічаў у нямецкай акупацыйнай улады, я прыехаў або, праўдзівей, мяне прывёз аўстрыяцкі ахвіцер Чэх з аўстрыяцкага палону да Вільні. У Вільні ўжо тады Беларусы мелі некаторыя няясныя ведамкі пра тое, што дзеялася ў часе вайны ў тэй большай часьці Беларусі, што засталася на ўсходзе нямецка-расейскага фронту. Прыходзілі яны кружнай дарогаю цераз Заходнюю Эўропу. Дзеля таго, што я быў пучыўшы ў палон увосень 1917 г., дык мог гэныя ведамкі ладне дапоўніць. Калі-ж на пачатку 1918 г., расейскі бок фронту перастаў існаваць, і нямецкая армія пайшла на ўсход, заняўшы вялікую часьць цэнтральнай Беларусі, то Беларусам у Вільні сталі ведамыя й апошнія падзеі ў цэнтральнай і ўсходняй Беларусі, зь іх найважнейшае тое, што адбыўся ў Менску вялікі ўсебеларускі зьезд, каторы абвесьціў Беларускую Народную Рэспубліку, што ёсьць Рада Беларускай Народнай Рэспублікі. Неўзабаве выясьнілася, што хоць абвешчана Беларуская Рэспубліка, але не абвешчаная яе незалежнасьць.

Да вайны 1914—1918 г., Вільня была цэнтрам нацыянальна-культурнага й палітычнага беларускага руху; зь нямецкай акупацыяй, увосень 1915 г., Вільня засталася такім цэнтрам толькі для занятай Немцамі Заходняй Беларусі. Ужо ў 1016 г. беларускія палітычныя арганізацыі ў сваёй дэклярацыі ў Вільні дамагаліся незалежнасьці Беларусі. Згодна з дэклярацыяй мела быць гэта аднаўленьне даўнейшага беларускага гаспадарства, званага Вялікім Княствам Літоўскім. Таксама ўходзіць у яго мела ня толькі этнаграфічная Беларусь, але й Летува, з тэй розьніцаю ад мінуласьці, што даўней Летува была звычайнай правінцыяй беларускай і адно часьць яе, Жмудзь, мела аўтаномію, цяпер-жа гэта мела быць гаспадарства фэдэрацыйнае, складзенае зь дзьвюх раўнапраўных часьцяў — Беларусі і Летувы.

Спачатку такога гаспадарства дамагаліся ў супольнай дэклярацыі ўсе краёвыя элемэнты, зн. ня толькі нацыянальна-сьвядомыя Беларусы й Летувісы, але й тыя з апалячаных Беларусаў і Летувісаў, што ўважалі сябе за Палякаў. Душою гэтае палітычнае канцэпцыі былі Беларусы зь Іванам і Антонам Луцкевічамі на чале. Такім парадкам традыцыя беларускае гаспадарстваваcьці адгукнулася нат больш за сто год пасьля зьнішчэньня беларускага гаспадарства, дарма што ранейшыя спробы яго ўзнаўленьня — у 1812 годзе, у паўстаньнях 1830—31 г. і 1863 г. — былі крывава здушаныя Масквою.

У 1917 г., адылі, Летувісы адступілі ад менаванае канцэпцыі і пачалі дамагацца незалежнасьці аднае Летувы, робячы пры гэтым нічым не абгрунтаваныя прэтэнсіі на часьць беларускіх земляў. Гэта згаджалася з палітыкаю Нямеччыны, каторая імкнулася прылучыць Летуву да Нямеччыны ў форме аўтаномнага гаспадарства зь нямецкім князем на чале, і з Расеяй пагадзіцца. Ня маючы іншага выхаду, пакуль усё залежыла ад Нямеччыны, Летувісы з балцкім супакоем і вытрыманасьцяй гадзіліся й на гэта, дарма што гэта ня было іхным ідэялам.

Нацыянальна-палітычным прадстаўніцтвам акупаванай Немцамі заходняй часьці Беларусі быў Беларускі Нацыянальны Камітэт із сялібаю ў Вільні. Жаданьнем Камітэту было пабачыцца з прадстаўнікамі Рады БНР, каб, галоўна, прысьпяшыць абвешчаньне незалежнасьці Беларусі. Дзеля гэтага трэба было паехаць у Менск. Дзеля таго, адылі, што палітычныя канцэпцыі Беларусаў у васобе Беларускага Нацыянальнага Камітэту не згаджаліся з канцэпцыямі Нямеччыны, нямецкая акупацыйная ўлада ў Вільні даўгі час не давала дазволу дэлегацыі Беларускага Нацыянальнага Камітэту на падарожжа ў Менск. Наапошку, дазвол быў атрыманы, і ў першай палавіне сакавіка 1918 году дэлегацыя Камітэту ў складзе Івана й Антона Луцкевічаў, Язэпа Туркевіча (віленскі работнік-сталяр), Сямашкі, начальніка гашэльнай дружыны места Вільні, і аўтара гэтых радкоў паехала ў Менск. Ехалі ў цяжарным адкрытым аледзянелым аўце.

У Менску дэлегацыю Заходняе Беларусі горача вітала Рада БНР, і на наступным ейным паседжаньні ўсе сябры дэлегацыі былі аднагалосна прынятыя ў сябры Рады БНР.

Спачатку былі нарады дэлегатаў із асобнымі раднымі, часта із сваймі старымі ідэялягічнымі сябрамі. Пасьлей фракцыя Беларускай Сацыялістычнай Грамады Рады БНР склікала сваіх сяброў, на каторай былі і ўсе іншыя беларускія сацыялістыя — сябры Рады БНР і некаторыя несацыялістыя Беларусы — таксама сябры Рады БНР. Зборка была вельмі чысьленая. З удзельнікаў яе захаваліся ў маёй памяці адно тыя, з каторымі й пасьлей даводзілася мне сустракацца. Гэта: Аркадзь Смоліч, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Язэп Лёсік, Аляксандра Прушынскі, Заяц, Язэп Варонка, Тамаш Грыб, Палута Бадунова. Хіба былі й Серада, маршалка Рады БНР, Аляксандра Цьвікевіч, Кастусь Езавітаў, Пётра Крэчэўскі і Васіль Захарка, але іх ня памятую. Была ўся дэлегацыя Заходняе Беларусі. На парадку дня было адно пытаньне — безадвалочнае абвешчаньне незалежнасьці Беларусі. Удзельнікі зборкі складалі абсалютную бальшыню сяброў Рады БНР, зн. ад іх залежыла абвешчаньне незалежнасьці. Зборка цягнулася доўга, пытаньне было ўсебакова разгледжана, мноства выступала з прамовамі, наапошку аднагалосна была прынятая рэзалюцыя — безадвалочна абвесьціць незалежнасьць Беларусі.

Дзеля абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, 24-га сакавіка было паседжаньне Рады БНР. Пачалося адвячоркам. Вёў яго маршалка Рады вэтэрынарны доктар Серада. Спачатку ініцыятары абвешчаньня незалежнасьці выясьнілі канечную патрэбу незалежнасьці Беларусі з гледзішча нацыянальна-культурнага, палітычнага й гаспадарскага ды падчыркнулі, што беларускі народ, які ў мінуласьці на працягу прынамся дзевяцёх стагодзьдзяў меў собскае гаспадарства, здольны сам быць незалежным гаспадаром у сваёй Бацькаўшчыне.

Адылі пачалася дыскусія. У Радзе БНР былі й нацыянальныя мяншыні: Расейцы — запраўдныя, наяжджомыя й абруселыя Беларусы, Палякі — запраўды спалячаныя Беларусы й Жыды. Усе Расейцы былі супраць незалежнасьці Беларусі, часьць Палякаў і часьць Жыдоў таксама былі супраць. З абодвых бакоў, зн. з паміж прыхільнікаў і праціўнікаў незалежнасьці Беларусі, было шмат прамоваў, болей з боку беларускага, як вялікае бальшыні. Настрой рабіўся ўсё гарачэйшы. Калі сьвітала 25-га сакавіка, быў прачытаны праект рэзалюцыі. Каб паганьбіць праціўнікаў незалежнасьці, раздаліся пасуленьні іменнага галасаваньня над рэзалюцыяй, што й было зроблена.

Гэта была гістарычная часіна. Дагэтуль адныя фармальна-праўна, а другія й пачуцьцёва былі грамадзянамі Расеі. Цяпер яны зрывалі з Расеяй, што з гледзішча расейскага права было зрадаю гаспадарства. Тыя, што не адвыклі ўважаць сябе за грамадзян Расеі, гэта добра сабе ўсьведамлялі й адчувалі. Ім асабліва гэта была пераломная часіна. Я зацеміў, што др. Серада дрыжэў пры галасаваньні. Усе Беларусы галасавалі за незалежнасьць свайго краю. Як толькі рэзалюцыя пра незалежнасьць была прынята, засьвяціла ў вокны ўзыходзячае сонца. Колькі асобаў ўскрыкнула: «Узыходзе сонца незалежнае Беларусі!»

Сама нямецкая акупацыя была вялікай перашкодай у дзейнасьці Рады БНР. Але, апрача гэтага, Немцы не рабілі адумысловых перашкодаў у дзейнасьці Рады; але й ані не памагалі. Прычына была ў тым, што пляны Нямеччыны, як было зацемлена вышэй, не згаджаліся зь незалежніцкімі імкненьнямі беларускімі. Некаторыя нямецкія палітычныя дзейнікі радзілі прадстаўніком Рады БНР дамовіцца з бальшавікамі што да незалежнасьці Беларусі, што, як ведама, было немагчыма.

**Я. Станкевіч**

# Сорак год беларускага збройнага змаганьня

(Заканчэньне з 4-ай бачыны)

ны Камісарыят Беларусі дазволіў арганізаваць беларускія батальёны Самааховы. Адказнаю за арганізацыю згаданых батальёнаў была беларуская арганізацыя гаспадарскага парадку, г. зв. Беларуская Самапомач. Яна-ж мела карміць і апранаць іх. Зброю меліся даць Самаахове Немцы. Арганізацыя Беларускае Самааховы пачалася ад падрыхтоўкі каманднага складу. Дзеля гэтага ў Менску быў арганізаваны курс перашколеньня ахвіцэраў. Курс быў кароткі, прыблізна месяц часу кажны. Гэткіх курсаў у Менску адбылося тры. Кажны курс падрыхтаваў каля 120 ахвіцэраў. Былі яны рознага веку, маладыя, год па дваццаць, і старыя, шасьцідзесяцігадовыя, прапаршчыкі запасу царскае арміі, савецкія лейтэнанты й моладзь з польскіх школаў падхаронжых рэзэрвы. Усе ня толькі дапаўнялі на курсах свае вайсковыя веды, але й слухалі лекцыяў зь беларусаведы. Тут яны пазнаваліся, зжываліся міжсобку, а гэта мела вялікае ўзгадавальнае значаньне. У пераважальнай бальшыні ўсе яны былі, бясспрэчна, добрымі беларускімі патрыётамі, гатовымі дзеля беларускае справы на кажную ахвяру.

Калі ахвіцэрскія кадры для батальёнаў Самааховы былі перашколеныя, у акругах былі арганізаваныя падахвіцэрскія курсы перашкаленьня, якія меліся падрыхтаваць добрых беларускіх падахвіцэраў.

Батальёны Самааховы былі створаныя ў кажнай акрузе. Дрэнна апраненыя, часта ў сваёй вясковай вопратцы, блага азброеныя, яны вельмі добра змагаліся з бальшавіцкаю партызанкаю, якая спрычыняла куды большую шкоду беларускаму жыхарству, чымся сваім варагом — Немцам. Шмат беларускіх вёскаў былі захаваныя ад зьнішчэньня іх бальшавіцкімі партызанамі толькі дзякуючы Самаахове.

У 1943 годзе нямецкія кіраўнічыя колы мусілі ўжо зразумець, што вайна на ўсходзе Немцамі прайграная.

Бальшавіцкая партызанка на Беларусі ўсьцяж памацнялася. Штодня расло незадаваленьне Немцамі й сярод беларускага жыхарства. Нялюдзкія спосабы нямецкага акупанта, тарнаваныя ім пры ліквідацыі партызаншчыны, нішчылі нашых людзей. Паленьне вёсак, арышты й масавыя забойствы нявінных жанчын і дзяцей, спрычыніліся да паўстаньня новае, беларускае нацыянальнае партызанкі, накіраванае супраць зьненавіджаных нямецкіх катаў. Не патрапіўшы даць рады із палажэньнем, імі-ж самымі створаным, Немцы наважылі шукаць дапамогі Беларусаў, дзеля чаго яны паклікалі на абшары Генэральнага Камісарыяту Беларусі г. зв. Беларускую Цэнтральную Раду (БЦР).

Некаторыя беларускія дзеячы, спадзяючыся што-колечы атрымаць ад Немцаў у сэньсе нацыянальна-беларускім, увайшлі ў склад БЦР. Галоўным заданьнем БЦР Немцы паставілі, аднак, змаганьне з партызаншчынай. Дзеля гэтага нямецкія акупацыйныя ўлады дазволілі правесьці на Беларусі мабілізацыю ў беларускае войска, г. зв. Беларускую Краёвую Абарону — Б. К. А. Пры БЦР быў арганізаваны адмысловы штаб БКА, які й падрыхтаваў мабілізацыйны плян. Мабілізацыя ў БКА была абвешчаная Прэзыдэнтам БЦР 10-га сакавіка 1944 году. Вынікі ейныя былі нязвычайныя. Прызыўнікі масава ставіліся дерад павятовымі прыймовымі камісіямі, робячы часта пехатою дзесяткі кілямэтраў. Бальшавіцкія партызаны намагаліся ня пушчаць людзей у павятовыя месты, абстаўляючы сваімі патрулямі дарогі й шосы, але не далі рады масаваму народнаму ўздыму. Прызыўнікі абыходзілі бальшавіцкія заставы лясамі й балотамі, часта па калена ў талым веснавым сьнягу, па вадзе, але перад прыймовымі камісіямі ставалі на час. Мабілізацыя, агулам кажучы, ператварылася ў нейкі масавы беларускі вайсковы рух, якога хіба, даўно ўжо ня было на Беларусі.

Пасьля заканчэньня мабілізацыі, з прызыўнікоў, якія былі прынятыя павятовымі камісіямі, былі арганізаваныя сорак пяхотных і 11 сапэрскіх батальёнаў, складам звыш пацідзесяцёх тысяч чалавек. Тымчасам, у Менску была адчыненая ахвіцэрская школа, у якую былі прынятыя 200 маладых Беларусаў зь сярэдняю асьветаю — будучыя беларускія ахвіцэры.

Гаворачы аб беларускай вайсковай акцыі пад нямецкай акупацыяй, ня можна памінуць і г. зв. чыгуначны беларускі батальён. Гэты батальен быў арганізаваны ў канцы 1943 году із заданьнем ахоўваць чыгуначныя шляхі на ўсёй прасторы Беларусі. У складзе згаданага батальёну было 800 чалавек.

Быў у Менску й г. зв. асобны беларускі батальён, арганізаваны яшчэ ў часы тварэньня беларускае Самааховы. Батальён гэты быў вельмі добра вышкалены, азброены й апранены. Усе камандзеры ротаў у згаданым батальёне былі нацыянальна вырабленыя Беларусы. Можа якраз дзеля гэтага, батальён быў пад асабліва войстраю кантролям Немцаў. Дзеля большае пэўнасьці, Немцы наважылі ўрэшце разьдзяліць беларускі асобы батальён на паасобныя роты, высылаючы іх зь Менску ў розныя куткі Беларусі. У часе адступленьня 1944 году, у Аўгустове, частка гэтага батальёну выступіла супраць Немцаў і пайшла ў партызаны, даўгі час змагаючыся й зь Немцамі і з наступаючаю савецкай арміяй. Канчальны ейны лёс не цяжка адгадаць.

Мала лепшы быў і лёс БКА. У канцы вясны й пачатках лета 1944 году, на Беларусі стварылася было гэткае палажэньне: усе чыгункі на прасторы ўсяе краіны ахоўваліся беларускімі жаўнерамі. У кажным павеце былі батальёны БКА, складам ад 800 да 1 000 чалавек. Аднак, дзякуючы сабатажу Немцаў, батальёны гэтыя былі зусім бяз зброі, або сяк-так азброеныя нядатнымі да ўжытку вінтоўкамі ды кулямётамі. Ясна, што ў гэткіх умовах супроцьставіцца савецкім танкам нашыя батальёны не маглі, хоць і шчыра йрваліся да змаганьня. Калі-ж нямецкая армія пачала пакідаць Беларусь, адступаючы на захад, — частка беларускіх батальёнаў пайшла ў лясы. Яны й былі тымі, што далі пачатак нашай славутай партызаншчыне, якая працягвала (а можа й яшчэ працягвае) безнадзейнае, але нясупыннае, ахвярнае змаганьне з панявольнікам нашае Бацькаўшчыны яшчэ даўгія гады пасьля канца апошняе вайны.

Іншая частка БКА, адыходзячы із нямецкай арміяй на захад, апынулася ў Нямеччыне, дзе ў пачатках 1945 году зь яе была арганізаваная г. зв. дывізія «Беларусь». У красавіку гэтага-ж году, дывізія «Беларусь» прабілася была празь нямецкі заходні фронт і перайшла на бок Амэрыканцаў. Лёсы ейныя добра ведамыя ўсім нам.

Гэтак быў цалкам змарнаваны для беларускае справы масавы беларускі вайсковы рух пад нямецкай акупацыяй. У гэтым сумным факце няма віны беларускіх дзейнікаў. Яны рабілі, што маглі. Але ясна, што нямецкі акупант, дбаючы вылучна аб сваіх справах і ня маючы пэўнасьці, куды дадзеная імі Беларусам зброя будзе ськіваваная ў вырашальным мамэньце, не маглі як сьлед узброіць беларускую армію. Гэтае дазнаньне павінна нам быць навукаю на будучыню.

На заканчэньне майго вельмі кароткага агляду беларускае вайсковае акцыі на працягу апошніх 40 год і беларускага збройнага змаганьня за незалежнасьць, трэба яшчэ раз моцна падкрэсьліць, што спробы выкарыстаньня абставінаў пад рознымі акупацыямі дзеля стварэньня свае, беларускае, збройнае сілы, дарма што столькі намаганьняў і энтузіязму былі ў іх пакладзеныя, не далі ніякіх большых вынікаў. Не раўнуючы лепшыя вынікі мелі беларускія паўстаньні, якія выбухалі з волі самога народу. У будучыні, бяручы на ўвагу сяньняшняе палажэньне нашае бацькаўшчыны, трэба прыняць другі шлях за адзіна правільны.

Трэба тут адцеміць яшчэ адзін важны, можа навет вырашальны мамэнт, гэта — належную вышыню каманднага складу кажнага войска, незалежна ад таго, якім-бы шляхам яно не паўставала. Ад камандзера ў першую чаргу патрабуецца зразуменьня мэты, за якую войска змагаецца. У дадзеным выпадку, беларускі камандзер павінен быць моцна нацыянальна сьведамы й шчыра верыць у неабходнасьць змаганьня за вызваленьне свайго народу з пад чужое няволі, каб ён мог жыць сваім собскім, незалежным і пэўне-ж лепшым жыцьцём.

Апрача гэтага, кажны камандзер павінен мець належныя вайсковыя веды безь якіх цяжка перамагчы ворага, якім-бы патрыятычным і ахвярным каманды склад ня быў. А веды здабываюцца толькі ўпорыстаю тэарэтычнаю навукаю ў вайсковых школах і фаховай практыкай, набытай службаю ў войску. Аб гэтым і павінны памятаць нашыя палітычныя дзейнікі як на эміграцыі, гэтак і на бацькаўшчыне.

Лёзунгам нашых будучых змагароў за незалежнасьць Беларусі павінна быць не — аддаць жыцьцё за Бацькаўшчыну, а — перамагчы ворага й вызваліць яе з чужое няволі.

**Ф. Кушэль**

# „Вялікія дасягненьні“

Пісалася-б гэта пра вынікі саракагодняй працы нейкага паважнага навукоўца, дык чалавек ня меў-бы ніякіх засьцярогаў што да прадукцыйнасьці юбіляра. Аднак тут справа ідзе пра дасягненьні ў галіне грамадзкіх навукаў у БССР за сорак гадоў існаваньня гэтае, як нам гавораць, «незалежнае» дзяржавы. Акадэмік В. Перцаў якраз і падсумоўвае ў сваім артыкуле саракагадовыя дасягненьні беларускіх навукоўцаў БССР у галіне грамадзкіх навукаў (гл. В. Перцаў, Аб разьвіцьці грамадзкіх навукаў у БССР за сорак гадоў. «Весьці Акадэміі навук БССР. Сэрыя грамадзкіх навук», № 3, 1957).

Акадэмік В. Перцаў пачынае свой артыкул словамі: «Для разьвіцьця грамадзкіх навукаў у Беларусі шырокія магчымасьці адкрыліся толькі пасьля перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі». Само сабой разумеецца, што гэта павінна было-б быць так, а ня інакш, бо Беларусь «атрымала» нацыянальную незалежнасьць, «парвала» путы нацыянальнага гнёту, якія яна цярпела пры царызьме. Што-ж атрымоўваецца ў запраўднасьці? Што апраўдоўвае цьверджаньне акадэміка В. Перцава?



Хор Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Нью Ёрку на Акадэміі, прысьвечанай 37-ай гадавіне Слуцкага Паўстаньня

Зробім маленькую дыгрэсію, зьвярнуўшыся да прыкладу малое «буржуазнае» дзяржавы — да Бэльгіі, якая ні тэрытарыяльна, ні сваім насельніцтвам ня перавышае цяперашняе БССР. Незалежнай дзяржавай (каралеўствам) Бэльгія стала ад 1831 году, г. зн. жыве незалежным нацыянальным жыцьцём ужо 127 гадоў. Цяпер яна мае 4 унівэрсытэты, ня лічачы акадэміі, і выпускае штогод навуковай прадукцыі ў галіне грамадзкіх навукаў далёка больш, чымся было выпушчана ў БССР за сорак гадоў ягонага існаваньня. БССР параўнальна маладая дзяржава, у якой навуковая праца павінна была-б разьвівацца шырокімі тэмпамі, каб гэтым самым нагнаць сваю адсталасьць. Гэтага вымагаюць ня толькі жыцьцёвыя патрэбы, але й амбіцыя народу. Тым часам БССР з адным унівэрсытэтам і адной акадэміяй бязьдзейнічае ў гэтай дзялянцы жыцьця. Прынамся такое ўражаньне выносіцца з артыкулу акадэміка В. Перцава.

Акадэмік В. Перцаў зазначае, што ў 1920-я гады беларускімі навукоўцамі быў напісаны й апублікаваны цэлы шэраг манаграфічных працаў з розных галінаў ведаў (не пералічвае!), у тым ліку акадэмік У. Пічэта апублікаваў у 1924 гаду адну працу зь гісторыі Беларусі да Люблінскай вуніі (гэта была ягоная «Гісторыя Беларусі», ч. I — П. З.), а ў 1927 гаду — «Гісторыю сельскай гаспадаркі і земляўладаньня ў Беларусі». Апрача гэтага акадэмік В. Перцаў зазначае, што ў гэтыя гады зь беларусаведы Інстытутам беларускай культуры была выдадзеная праца «400-годзьдзе беларускага друку»; ягонай археаграфічнай камісіяй — тры томы «Беларускага архіву» зь гісторыі Беларусі XV—XVIII стагодзьдзяў; і Вышэйшым Саветам народнай гаспадаркі БССР — «Прамысловасьць БССР (вынікі й пэрспэктывы)». Зазна-

(Заканчэньне на 6-ай бачыне)

гада», што складалася з чатырох батальёнаў і двух эскадронаў кавалерыі. Кіруючы штаб у гэтай брыгадзе ізноў тварылі нашыя апалячаныя ў той ці іншай меры суродзічы, як кн. Ч. Сьвятаполк-Мірскі, З. Казёл-Паклеўскі, кн. Любамірскі, кн. Радзівіл, Тышкевіч, Зьдзерскі і інш. (Л. Гросфэльд, Польске рэакцыйнэ формаціе войсковэ, Ва-ва 1956, 26). Яшчэ тады ня было гутаркі аб польскім патрыятызьме ці польскай дамінацыі. Беларуская верхавіна ў Брыгадзе зусім ня дбала пра польскі патрыятызм. У актах ёсьць запіскі аб варожасьці ахвіцэраў да польшчыны. Так напр. камандзір запаснога батальёну маёр Зьдзерскі біў па твары жаўнераў і прыгаварываў: «Ты польская морда» (Гросфэльд, 26), а камандзір бабруйскай кампаніі харунжы Р. заўсёды падкрэсьліваў сваё «літоўскае» (беларускае) паходжаньне (там-жа).

### Фармаваньне I-га Корпусу

Фармаваньне Корпусу праводзілася ў травені і чэрвені. 7—22 чэрвеня 1917 г. адбыўся зьезд «польскіх» вайскавікоў у Пецярбургу, які выбраў Начполь (Начэльны Польскі Камітэт Войсковы) і ПВКВ (Польскі Войсковы Камітэт Выканаўчы). На чале першага стаў Рачкевіч, другога ген. Доўбар-Мусьніцкі — абодва, як усе іншыя важнейшыя асобы (ген. Яцына, пал. Жэлігоўскі, Тупальскі) — беларускага паходжаньня. Заўважваў гэта прысутны на зьезьдзе эндэк Залуска ў сваім лісьце да Стэцкага: «Галоўны Камітэт створаны з малакасосаў, адвакацкіх памочнікаў, канцылярыстых, акцёраў, і зь зьбіраніны ўсякай, якіх злучала: «крэсовэ» паходжаньне (Гросфэльд, 36).

Датай легальнага заснаваньня «Польскага Корпусу» ёсьць 26 ліпень 1917 г., калі галоўнае камандаваньне расейскай арміі (стаўка) выдала загад Дзянікіну, камандзіру заходняга фронту, зарганізаваць I Корпус з жаўнераў «польскага» паходжаньня. Дзянікін тады назначыў Доўбара-Мусьніцкага камандзірам гэтага Корпусу.

Галоўнай арганізацыйнай масай Корпусу паслужылі зьлііквідаваныя за непаслухмянасьць 169 і 171 расейскія дывізіі. Да іх былі дададзеныя розныя іншыя адзінкі, выдзеленыя раней, а таксама папаўняўся ён у будучыні рознымі элемэнтамі. Цікавую анэкдатычную характэрыстыку Доўбара-Мусьніцкага, як чужога польскай культуры, дае Мэльхіёр Ванькові́ч (Стжэмпы эпопэі, Ва-ва, 1939, 119): у часе візытацыі падуладнага войска ў ваднэй з жаўнерскіх сьвятліцаў Доўбар-Мусьніцкі пабачыў выразаны ножыкам на лаўцы напіс «Міколай Рэй з Нагловіц». Генэрал тады сказаў камандзіру адзінкі: «Мікалай Рэй пэўня хват і мужны жаўнер, але скажыце яму, каб казённых лавак не псаваў».

### Дачыненьні беларускіх маёнткаўладальнікаў

Вестка аб легальным тварэньні I Корпусу на Беларусі радасна была сустрэнута беларускімі маёнткаўладальнікамі, на якіх страх нападаў, што сацыяльная й нацыянальная рэвалюцыі на Беларусі могуць скончыцца нацыяналізацыяй буйной уласнасьці і пераняцьцем іхніх маёнткаў сялянамі. Да штабу Корпусу ў Бабруйску пачалі надыходзіць заявы ад маёнткаўладальнікаў з просьбамі прысланьня аддзелаў дзеля пастою ў маёнтках і абароны іх перад нападамі сялянаў. Вось для прыкладу некаторыя вытрымкі зь лістоў маёнткаўладальнікаў. Р. Халхоўскі зь Семкава пад Менскам пісаў:

> «Гэтым маю гонар прасіць заняць польскім войскам мой маёнтак Семкава, 14 вёрст ад Менску пры трахце на Маладэчна».

Іншы маёнткаўладальнік Б. Ратынскі аддаваў да распараджэньня «польскіх» аддзелаў свой маёнтак Сінча, 8 вёрст ад Пухавічаў, Ігуменскага павету ў Меншчыне.

> «У маім маёнтку «Сінча» ёсьць дастатковая колькасьць адпаведных будынкаў, — пісаў ён, — для закватараваньня так людзей, як і коней (раней у мяне было 500 штук рагатай жывёлы і коней), апрача таго, там ёсьць і іншыя выгоды, як тэлефон, палучаны з усім паветам і Менскам, электрычнае сьвятло, дастатковая колькасьць лесу на апал, многа сенажацяў і г. д., бульба, каровы, корм, а такжа некалькі дзесяткаў коней, зь якіх частку я мог-бы перадаць польскай арміі» (Гросфэльд, 41).

Гэткія заявы, зразумела, былі прыйманыя штабам Корпусу і ў паасобныя маёнткі пасылаліся меншыя або большыя аддзелы. Такім чынам, пачынаючы ад жніўня 1917 г., пачалася «польская» акупацыя некаторых паветаў Менскай губэрні.

*
* *

### Як прадстаўляўся ў гэты час беларускі вызвольны рух

Беларусь, як ведама, у выніку ваенных падзеяў была падзеленая на дзьве часткі: на заходнюю (Віленшчына, Гарадзеншчына, Беласточчына, Падлясьсе, Палесьсе і зах. частка Меншчыны) пад нямецкай акупацыяй, і ўсходнюю (рэшта Беларусі) — пад расейскай. Лінія фронту праходзіла: на захад ад Рыгі, на захад ад Дзьвінска, праз Смаргоні, Баранавічы, Косаў, Ковель і далей уздоўж расейска-аўстрыяцкай мяжы на рацэ Збруч. Так у заходняй, як і ўва ўсходняй Беларусі была прыфрантовая канцэнтрацыя варожых сабе арміяў, пануючае срогае ваеннае становішча, ды масавая эвакуацыя насельніцтва ў глыб Расеі.

Ранейшы «нашаніўскі» Віленскі асяродак апынуўся на нямецкім баку. Быў аднак моцна прарэджаны ваеннымі расейскімі мабілізацыямі і эвакуацыямі насельніцтва, а таксама паўстрымоўваны ў сваёй дзейнасьці нямецкай акупацыйнай управай «Обэрост». Польская акцыя тут ня мела большых посьпехаў. Асабліва буйна разьвілося беларускае школьніцтва ў Гарадзеншчыне, дзе налічвалася 135 школаў і дзе існавала настаўніцкая сэмінарыя ў Сьвіслачы. 150 школаў і настаўніцкія курсы ў Вільні былі ў Віленшчыне і 54 школы ў Наваградчыне. Выдавалася два разы ў тыдзень беларуская газэта «Гоман» ды дзеіла некалькі розных беларускіх арганізацыяў, як «Беларускі Клюб», згуртаваньне «Золак», «Беларускае Навуковае Таварыства», «Беларускі Вучыцельскі Саюз», «Цэнтральны Саюз Беларускіх Нацыянальных і Грамадзкіх Арганізацыяў» і інш.

На другім баку фронту, на падрасейскім баку, аж да выбуху Лютаўскай рэвалюцыі на беларускіх землях усякі беларускі нацыянальны рух быў забаронены і прасьледваны. Адзінай легальнай беларускай арганізацыяй быў «Беларускі Камітэт Помачы Уцекачом і Ахвярам Вайны» ў Менску й Пецярбургу, а беларускія часапісы, выдаваныя ў канцы 1916 г. у Пецярбурзе, «Сьветач» і «Дзяньніца», пасьля некалькіх нумароў, былі спыненыя войстрай ваеннай цэнзурай. Аб тварэньні нейкіх беларускіх вайсковых аддзелаў, ведама, ня можна было ня толькі гаварыць, але й думаць.

Зь нелегальных арганізацыяў наймацнейшай была БСГ (Беларуская Сацыялістычная Грамада) з галоўнымі асяродкамі ў Менску й Пецярбургу.

### Разьвіцьцё беларускага руху пасьля рэвалюцыі

Лютаўская рэвалюцыя дала некаторыя большыя магчымасьці для разьвіцьця беларускага нацыянальнага руху, але стабільнасьць фронту, далейшая канцэнтрацыя расейскіх ар-

# „Вялікія дасягненьні“

(Заканчэньне зь 5-ай бачыны)

чае таксама, што беларускімі эканамістымі было напісана шмат артыкулаў і брашураў з эканомікі Беларусі, вялася плённая праца па вывучэньню матарыялаў з археалёгіі Беларусі, па вывучэньню этнаграфічных і фальклёрных матарыялаў.

Аднак акадэмік В. Перцаў чамусьці абыходзіць маўчаньнем «Гісторыю Беларусі» прафэсара Ігнатоўскага, працы Ў. Пічэты «Беларуская мова», як фактар нацыянальнай культуры» (1924), «Гісторыя Беларусі з даўнейшых часоў да канца XIII стагодзьдзя» (1927), шэраг ягоных навуковых артыкулаў, зьмешчаных у часапісе «Савецкая Беларусь» пад агульным загалоўкам «Беларускае адраджэньне XVI стагодзьдзя і сучаснае беларускае нацыянальна-культурнае адраджэньне» і «Францішак Скарына і ягоная праца». Ён не ўспамінае пра выдадзеныя зборнікі з фальклёрыстыкі й археалёгіі, ды што галоўнае — ні слова пра тое, што ўсе ўспомненыя й пералічаныя ім працы й зборнікі былі забароненыя і выцягнутыя з ужываньня. У гэтым пытаньні акадэмік В. Перцаў задавальняецца ляканічнай заўвагай: «Нажаль, з прычыны засьмечанасьці Інбелкульту і мясцовых гісторыка-краязнаўчых арганізацыяў нацыяналістычнымі элемэнтамі іх работа праводзілася па няправільных мэтадах, накіраваных да ўмацаваньня шкоднай тэорыі аб «самабытнасьці» старажытнай беларускай культуры, быццам-бы ня зьвязанай з культурамі расейскага й украінскага народаў.»

Гэтае асьветчаньне акадэміка В. Перцава выключае, такім чынам, з дасягненьняў БССР у галіне грамадзкіх навукаў усе дасягненьні 1920-х гадоў. Ды й акадэмік Перцаў сам зазначае, што запраўднае разьвіцьцё грамадзкіх навукаў у БССР пачалося толькі з часу разгрому беларускіх «буржуазных нацыяналістых», з часу апублікаваньня пастановаў ЦК ВКП(б) і Саўнаркому СССР (16 мая 1934 г.) пра выкладаньне гісторыі ды й наагул пра разьвіцьцё грамадзкіх навукаў у СССР. Як ведама, гэтымі пастановамі была легалізаваная ліквідацыя беларускай гістарычнай навукі ў БССР і зацьверджаны курс новай русыфікацыі.

Чым-жа адзначыліся дасягненьні БССР у галіне грамадзкіх навукаў з часу ліквідацыі нацыянал-дэмакратычных плыняў і да сяньняшняга дня? Пералічым іх за акадэмікам В. Перцавам: у 1932 годзе выйшлі «Сталыпінская рэформа ў Віцебскай губэрні» і «Аб разьвіцьці капіталізму ў Беларусі» гісторыка Д. Дудкова; манаграфічныя працы прафэсара С. Вальфсона, «прысьвечаныя асновам дыялектычнага матарыялізму, ідэялёгіі загніўшага капіталізму, ідэялёгіі й мэтадалёгіі **нацдэмакратызму**»; «Гісторыя расейскай царквы» Н. М. Нікольскага (1930 і 1936); «Матарыялы зь гісторыі мануфактуры Беларусі ў час распаду капіталізму (1793-1861)» (1934-1935); «Гісторыя БССР у дакумантах і матарыялах» (2 томы, 1936 і 1940) у якой зьмешчаны дакуманты часу ад IX стагодзьдзя да 1903 году (!); III, IV і V томы «Дакумантаў і матарыялаў зь гісторыі Беларусі» (1953-1955), у якіх зьмешчаны матарыялы зь гісторыі рэвалюцыйнага руху 1905-1917 гадоў і ўстанаўленьне савецкай улады ў Беларусі; зборнік матарыялаў «Рэвалюцыйныя камітэты ў Беларусі ў 1920 г.» (1956); зданыя ў друк 2 томы дакумантаў, якія насьвятляюць «перамогу Кастрычніцкай Рэвалюцыі ў Беларусі» і зборнік дакумантаў «Сялянскі рух у Беларусі пасьля адмены прыгоннага права».

Апрача гэтага былі выдадзеныя творы Я. Купалы ў 6 томах, Я. Коласа ў 8 томах; два зборнікі тэкстаў па беларускай літаратуры XIX стагодзьдзя; творы Дуніна-Марцінкевіча й М. Багдановіча (маюцца выйсьці; «Сацыялістычная народная гаспадарка БССР» (1949); «Нарысы эканамічнай геаграфіі БССР» (1953); «Эканамічная геаграфія БССР» (1956); «Шляхі павышэньня прадукцыйнасьці працы ў прамысловасьці БССР» (1957); «Значэньне правільнага спалучэньня галін у разьвіцьці грамадзкай гаспадаркі калгасаў» (1955); «Гісторыя Менску» (1957); «Матарыялы па археалёгіі БССР» (т. I, 1957); «Узьеднаньне беларускага народу ў вадзінай Савецкай дзяржаве» Т. Гарбунова (1948); «Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя і ўтварэньне БССР» Н. Каменскай (1954); «Падпольны бальшавіцкі друк Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны» І. Краўчанкі (1950); брашура «Рэвалюцыйная барацьба ў Менску ў гады першай расейскай рэвалюцыі» В. Шацілы (1956); папулярная праца «Беларуская ССР» (1956); «Беларуская архітэктура» М. Кацэра (1955); «Расейска-беларускі слоўнік» (1953); некалькі манаграфічных працаў пра творчасьць беларускіх пісьменьнікаў і некалькі (вельмі мала) хрэстаматыяў ці падручнікаў зь гісторыі беларускай літаратуры (пры гэтым страшэнна тэндэнцыйных).

Гэта былі больш-менш працы, пералічаныя акадэмікам В. Перцавам. Нейкага дзясятка, праўда, ён не далічыў да свайго сьпіску, у тым ліку прапусьціў напісаныя ў 1940—1946 гадох і ня выдадзеныя да гэтага часу 2 томы «Падручніка зь гісторыі Беларусі для вышэйшых школаў», «Беларускі народ у сям'і славянскіх народаў» і «Аграрная рэформа Жыгімонта-Аўгуста ў дзеяньні» Ў. Пічэты. Аднак ці гэты дзясятак ратуе катастрафічнае становішча ў разьвіцьці грамадзкіх навук у БССР? На кажны год існаваньня БССР прыпадае толькі адна праца! А трэба ўлічыць, што гэта-ж праца зьмяшчае ў сабе сьвядомае хвальшаваньне гісторыі народу, як гэта, прыкладам, можна знайсьці ў выданьні Акадэміі навук БССР — «Гісторыі БССР»!

Дасягненьні, такім чынам, вельмі мізэрныя, пра якія навет ня выпадала-б гаварыць, шануючы хоць-бы й гэтую фразу: «сорак гадоў існаваньня БССР».

Ці запраўды гэтая-ж БССР натолькі зьяўляецца беднай зь гістарычнай пэрспэктывы, што пра яе навет няма й чаго пісаць? Уявім сабе, колькі-б можна было выдаць тамоў гістарычных дакумантаў, выцягнуўшы з падвалаў Масквы пасівеўшую «Мэтрыку Літоўскую» ды й другія сканфіскаваныя ў свой час беларускія архіўныя матарыялы?! Яны далі-б таксама шмат тэмаў і матарыялу для напісаньня некалькіх дзясяткаў каштаўнейшых манаграфіяў зь гісторыі беларускага народу. Але-ж гэта абазначала-б даць падставы разьвіваць «шкодныя тэорыі пра самабытнасьць беларускага народу й ягонае культуры»!

У гэтым толькі заключаецца мізэрнасьць беларускай савецкай гістарычнай навукі й грамадзкіх навукаў наагул. Гэтай мізэрнасьцяй характэрызуецца таксама «незалежнасьць» Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

**П. Залужны**

# Першы Усебеларускі Кангрэс

## 18=31 (5=18 ст. ст.) сьнежня 1917 г.

*Успаміны Дэлегата Кангрэсу*

### I. Першая Сьветавая Вайна

Першыя крокі адроджанага беларускага гаспадарства прыпадаюць на канец 1917 году. Да гэтага часу былі зробленыя першыя спробы нацыянальнага абуджэньня яшчэ ў канцы XIX стагодзьдзя, але выбухам яго стаўся 1905 год. З гэтага часу крок за крокам беларускі нацыянальны рух пашыраўся аж да Першай Сьветавай Вайны. З пачаткам вайны маладыя беларускія арганізацыі сталі звужацца й заміраць. Супрацоўнікі гэтых арганізацыяў былі расьцярушаныя па сьвеце: адны былі мабілізаваныя на фронт, другія ў тылавыя арганізацыі на працу, на абарону, а іншыя сталі выяжджаць уцекачамі на ўсход, бо восеняй 1915 году бадай палова Беларусі была занятая Немцамі. Цэнтрам беларускай нацыянальнай працы была Вільня, а пасьля яе эвакуацыі (летам 1915 году) гэтая праца была амаль зусім прыпыненая.

У часе Першай Сьветавай Вайны расейская царская ўлада трохі паслабіла лейцы самаўладнага кіраваньня. Гэта выкарысталі падбітыя й паняволеныя народы і расейская прагрэсыўная інтэлігенцыя. Гэтая апошняя пайшла на працу ў земскія й гарадзкія саюзы, каб дапамагаць абароне краіны, а прыгнечаныя нацыянальнасьці заходняй часткі імпэрыі пазакладалі свае нацыянальныя камітэты, каб дапамагаць уцекачом сваей нацыянальнасьці. Гэтыя магчымасьці выкарыстала й беларуская нацыянальная інтэлігенцыя й зарганізавала ў Менску «Беларускі Нацыянальны Камітэт па дапамозе Беларусам уцекачом». У часе вайны адзінай беларускай арганізацыяй і быў гэты камітэт.

### 2. Беларусы ў пачатку Лютаўскай рэвалюцыі

Амаль усе паняволеныя Расеяй народы зь першых дзён Лютаўскай рэвалюцыі ўзяліся за працу пры адбудове сваей роднай культуры й дзяржаўнасьці, а толькі адны Беларусы з пачатку рэвалюцыі зрабілі вельмі мала для свайго нацыянальнага адраджэньня. Гэтаму былі свае прычыны. Беларуская інтэлігенцыя была расьцярушаная па фронтах і тылох вялізарных расейскіх абшараў, а сама Беларусь разьдзеленая ваенным фронтам. Як у прыфрантовым цэнтры Менску, так і ў яго ваколіцах — далейшых беларускіх местах, мястэчках і паселішчах было напхана вайскоўцаў Расейцаў, якія з пачатку рэвалюцыі захапілі кіруючыя становішчы й падпарадкавалі сабе ўсё насельніцтва. Гэтыя чужакі-прыблуды паклёпнічалі сярод беларускіх масаў на беларускую інтэлігенцыю, называючы яе панамі-абшарнікамі й буржуямі. У Менску месьцілася шмат арганізацыяў, абслугоўваючых фронт: Саюз Земстваў і Саюз Гарадоў, розныя абозы й штабы, таксама наехала з цэнтру Расеі шмат цывільных асобаў, ахвотнікаў на лёгкія заработкі. Прыкладам, калі Менск да вайны меў каля 90 000 насельніцтва, то ў 1917 г. меў ужо каля 230 000. Прыблізна такі-ж працэнт «прыросту» адносіўся й да іншых прыфрантовых гарадоў. І вось у руках гэтага чужацкага натоўпу апынулася тагачасная ўлада — Савет Работніцкіх і Салдацкіх дэпутатаў. У першыя дні рэвалюцыі была пакліканая да жыцьця Народная міліцыя. На кіраўніка гэтай міліцыі тым-жа натоўпам быў высунуты таварыш Міхайлаў зь Іванова-Вазьнясенска. Ён абкружыў сябе бандай рабаўнікоў ды, разьяжджаючы па ваколіцах Менску, паліў маёнткі й хвальваркі ды, загадваў, каб і насельніцтва рабіла тое самае. Калі напасьледак улады агледзеліся й пачалі лавіць гэтага начальніка, дык ён уцёк у Случчыну і там, пад клічкай «Лебедзь», пачаў рабіць тое самае.

У значнай меры нам шкодзілі й заходнія суседзі ў нашай нацыянальнай працы. У часе вайны ўцекачы з цэнтральнай Польшчы разьмясьціліся на Беларусі і, маючы грашовыя фонды, пазакладалі польскія пляцоўкі, школы, а таксама камітэты з цэнтрам у Менску. Яны пачалі весьці шалёную прапаганду сярод нацыянальна несьвядомых Беларусаў каталікоў, заклікаючы іх падтрымліваць іхныя камітэты й пасылаць дзяцей у іхныя школы. Яны зарганізавалі нат сваё войска (легіёны), якое было расквартэраванае на Беларусі і ў якім было каля 40% несьведамых Беларусаў.

У той час, калі больш спрытныя нашыя суседзі расьселіся із сваімі арганізацыямі на нашых землях, нашыя нацыянальныя арганізацыі былі толькі ў зародку. У сакавіку 1917 году беларускія дзеячы стварылі Беларускі Нацыянальны Камітэт. У хуткім часе з высылкі зь Сібіру вярнуліся Язэп Лёсік і Алесь Гарун (А. Прушынскі), якія сталі працаваць у гэтым камітэце. Тут-жа стала выходзіць газэта «Вольная Беларусь».

Усё-ж расьцярушаныя Беларусы па вялікіх прасторах расейскага фронту й тылу сталі перакылікацца, каб сабраць свае сілы і зарганізавацца. Але ў той час быў абвешчаны загад Керанскага, які забараняў на фроньце й каля фронту склікаць розныя зьезды й тварыць новыя арганізацыі. Такім чынам Беларусам вайскавіком праз усё лета 1917 году было немагчыма мець свае арганізацыі. Керанскі толькі тады адклікаў гэты свой загад, калі натоўп пад кіраўніцтвам бальшавікоў пачаў перахопліваць у яго ўладу. Дазвол аб скліканьні зьезду ў прыфрантовай паласе быў выдадзены ў канцы верасьня 1917 году. У пачатку кастрычніка хапіліся за свае арганізацыі й беларускія вайскавікі. Па ўсім фроньце й тылох пачалі ўзьнікаць беларускія арганізацыі, і ў пачатку лістапада ўжо існавалі моцныя арганізацыі: у Адэсе на Румынскім фроньце; у Кіяве на Паўдзённым фроньце; у Менску на Заходнім фроньце; у Віцебску на Паўночным фроньце. Дзякуючы нязтомнай энэргіі паручніка Я. Макарэвіча, не зважаючы на забарону Керанскага яшчэ ў верасьні была зарганізаваная Беларуская Рада 12-ай Арміі ў месьце Валк (Прыбалтыка). А ў Менску была ўжо Беларуская Вайсковая Рада, як абагульняючая арганізацыя ўсіх Беларусаў вайскавікоў. Апрача гэтага, было ўжо шмат драбнейшых арганізацыяў (палковых, дывізыйных, гарнізонных). А над усімі беларускімі арганізацыямі — вайсковымі й цывільнымі — існавала ў Менску Вялікая Беларуская Рада.

### 3. Зьезд Беларусаў вайскавікоў Паўночнага фронту

У пачатку кастрычніка Беларусы пачалі рыхтавацца да скліканьня зьезду Беларусаў вайскавікоў Паўночнага фронту ў Віцебску. З гэтай мэтай ініцыятыўная група разаслала паведамленьні па ўсіх вайсковых адзінках, каб беларускія вайскавікі выбралі па аднаму прадстаўніку ад кажнай вайсковай адзінкі і з адпаведнымі дакумэнтамі накіравалі іх на 25 кастрычніка ў Віцебск. Нашая брыгада (5 С.б. Стр. Арт.) разаслала паведамленьні ўсім батарэям і лёгкім паркам, каб на мясцох жаўнеры Беларусы выбралі па аднаму выбіральніку ад кажнай батарэі й кажнага парка, якія ў назначаны дзень і гадзіну зьбяруцца ў управу Брыгады і выбяруць між сабой аднаго дэлегата ад Беларусаў Брыгады, які паедзе ў Віцебск. Калі гэтае паведамленьне дайшло да нашай батарэі, дык камандзір батарэі даручыў правесьці гэтую работу мне, бо ў той час у нашай батарэі быў ужо беларускі гурток, на чале якога стаяў я. У нашай батарэі, як і ў іншых батарэях нашай брыгады, было шмат Беларусаў (каля 25% усяго складу). У нашай батарэі частка Беларусаў была

(Працяг на 7-ай бачыне)

міяў на тэрыторыі Беларусі ды ваеннае палажэньне былі далейшымі путамі беларускага народу. Самая вестка аб рэвалюцыі распаўсюдзілася на Беларусі зь вялікім апазьненьнем, дзесьці на пачатку сакавіка 1917, а да гэтага часу расклееныя афішы начальніка менскага ваеннага вокругу барона фон Траўбэнбэрга пагражалі самымі вострымі рэпрэсіямі за ўсякія непарадкі ці рэвалюцыйныя дэманстрацыі.

Толькі ў палавіне сакавіка 1917 году пачаў маланкава разьвівацца беларускі нацыянальны рух у форме засноўваньня палітычных, нацыянальных, рэлігійных, грамадзкіх і вайсковых арганізацыяў ува ўсіх большых беларускіх гарадох, а таксама й большых беларускіх гуртах па-за Беларусяй, у Маскве, Адэсе, Пецярбургу і іншых мясцох. Спачатку цэнтрам палітычнага руху быў Пецярбург, дзе разгарнуў працу Цэнтральны Камітэт Беларускай Сацыялістычнай Грамады, які высылаў сваіх прадстаўнікоў у «Временное Правительство» кн. Львова, але ўжо ў другой палавіне сакавіка беларуская нацыянальна-вызвольная дзейнасьць сканцэнтравалася ў Менску. Тут адбыўся 25 сакавіка 1917 г. зьезд БСГ, які прыняў рэзалюцыю аб змаганьні за аўтаномію Беларусі ў фэдэрацыі з Расеяй. Яшчэ нядзэмаралізаваны заходні фронт і ваеннае становішча ў прыфрантовай паласе з аднаго боку, а фэдэратыўныя настроі большасьці ўдзельнікаў зьезду — з другога, ня спрыялі выявіцца беларускай народнай ідэі незалежнасьці.

У гэтым самым амаль часе, гэта ёсьць 25—27 сакавіка 1917 г., у тым-жа самым Менску адбыўся іншы беларускі зьезд прадстаўнікоў ад усіх арганізацыяў з тэрыторыі Беларусі, які пастанавіў таксама імкнуцца да перабудовы расейскай імпэрыі з тым, каб Беларусь была аўтаномнай рэспублікай. Зьезд выбраў Беларускі Нацыянальны Камітэт у наступным складзе: старшыня Раман Ськірмунт, буйны земляўладальнік на Палесьсі і сябра «Дзяржаўнае Думы», аграном А Смоліч, адвакат П. Аляксюк, Л. Заяц, А. Будзька, В. Фальскі, Б. Тарашкевіч, а. В. Гадлеўскі, Е. Канчар, П. Краскоўскі, А. Бурбіс, К. Кастравіцкі, Бабарыкін, Ф. Шантыр, інж. Л. Дубейкоўскі і З. Жылуновіч.

Ужо пераняцьце старшынства Беларускім Нацыянальным Камітэтам Р. Ськірмунтам, як буйным маёнткаўладальнікам, выразны доказ на тое, што ў першай фазе тварэньня БНР, гэта ёсьць перад Кастрычніцкай рэвалюцыяй, ня было адзінага, скажам, прапольскага думаньня ў так званай шляхоцка-абшарніцкай беларускай верхавіне. Немалая частка адчувала сваю злучнасьць зь беларускім народам і хацела для яго працаваць, аднычасова стаўляючыся сэпаратыстычна так да Масквы, як і Варшавы. Галоўнай справай было ўтрыманьне зямельнай уласнасьці, магчыма паменшанай на карысьць сялянства, але яшчэ захоўваючай вядучую ролю гэтай верхавіне. Дэмакратызацыя старога рэжыму ў гэтым часе здавалася быць надзеяй на лепшую будучыню, як гэта было пры царскім самадзяржаўі, чорнасоценшчыне і жандармшчыне.

На беларускі шлях стала пераходзіць таксама каталіцкае духавенства. 24—25 траўня ў Менску адбыўся зьезд каталіцкага духавенства, які прыняў пастанову дамагацца шырокай аўтаноміі для Беларусі і беларусізацыі каталіцкіх касьцёлаў і духавенства. Хутка пасьля гэтага паўстала ў Пецярбурзе «Хрысьціянская Дэмакратычная Злучнасьць», як палітычная партыя, што ад сярэдзіны 1917 пачала выдаваць сваю газэту «Крыніцу».

### Радыкальныя настаўленьні рэвалюцыі

Расейская рэвалюцыя аднак пакацілася па пахілай плошчы. Бальшавіцкая партыя, выкінуўшы самыя радыкальныя клічы, як «далоў вайну», «мір бяз анэксіяў і кантрыбуцыяў», «уся зямля сялянам», а «улада саветам», знаходзіла шырокі водгук сярод насельніцтва. Бальшавіцкія ўплывы пачалі расьці асабліва з хвілінай, калі Немцы высадзілі ў Пецярбургу бальшавіцкі штаб зь Ленінам на чале (3 красавіка 1917 г.) Першым паказьнікам захістаньня Лютаўскай рэвалюцыі была рэканструкцыя «Временного Правительства» 18 травеня 1917, калі бальшавіцкая партыя была дапушчана да ўрадавай кааліцыі, а меншавік Царатэлі ўвайшоў у ўрад. Керанскі тады пераняў міністэрства вайны ад Гучкова, прадстаўніка расейскага чорнасоценства.

Такім чынам пачалася радыкалізацыя палітычных праграмаў, бальшавіцкая й сацыялістычная ўзмоцненая прапаганда сярод працоўнага насельніцтва й сярод жаўнераў на фроньце, пачаўся расклад расейскага правапарадку, а паняволеныя народы пачалі свабадней ходацца за свае ідэялы. У беларускім народзе заварушылася сялянства, як аснаўная рэвалюцыйная сіла, дамагаючыся ліквідацыі маёнткаўладальнай сыстэмы. Беларускія сацыялістыя й эсэры знаходзяць выдатную апору, а плятформа Беларускага Нацыянальнага Камітэту з Р. Скірмунтам на чале — не магла быць папулярнай. Нічога дзіўнага, што ў ліпені 1917 г. на чарговым зьезьдзе прадстаўнікоў ад беларускіх партыяў і арганізацыяў далейшая рэпрэзэнтацыя й кіраўніцтва беларускім вызвольным рухам было даручаная не БНК, але Цэнтральнай Радзе беларускіх арганізацыяў і партыяў, укамплектаванай выключна з прадстаўнікоў радыкальных кірункаў.

Беларускія маёнткаўладальнікі і іх аднадумцы не маглі спадзявацца, што беларуская нацыянальная рэвалюцыя забясьпечыць іх прыватную ўласнасьць. Вось чаму ад гэтага часу наступае зварот беларускай шляхоцкай абшарніцкай верхавіны ды іх аднадумцаў у бок Польшчы, дзе іх сябры зь Пілсудзкім на чале тварылі рэальную ваенную сілу, здольную забясьпечыць іх інтарэсы на Беларусі, Жамойдзі й Украіне. Корпус Доўбар—Мусьніцкага на Беларусі быў жаданым ратункам тут на месцы перад рэвалюцыйным беларускім сялянствам.

### А як справа прадстаўлялася зь беларускай збройнай сілай

Першая беларуская дэлегацыя да Часовага ўраду кн. Львова ў красавіку 1917 г. з А. Цьвікевічам на чале была прынята «кісла **і бяз большай увагі»** (А. Цьвікевіч, Беларусь, Бэрлін 1919, 18—19). Ідэя вызваленьня Беларусі навет у форме аўтаномнай рэспублікі наводзіла страх сярод маскоўскіх цэнтралістых, што разваліцца Расейская імпэрыя. Ня мела посьпеху і дэлегацыя да Керанскага, як міністра вайны, каб дазволіў выдзяліць Беларусаў з расейскай арміі, зь якіх можна было-б утварыць аўтанамічныя беларускія аддзелы. Керанскі рашуча адмовіўся выдаць гэткі дазвол Беларусам, хоць даў загад Дзянікіну аб фармаваньні «польскага» Корпусу ды ўкраінскіх аддзелаў на Украіне.

Гэта абазначала, што ў найбліжэйшай будучыні беларускі рух, а таксама й стары грамадзка-эканамічны парадак на Беларусі, ня мае пэрспэктываў на самаабарону, ня маючы падтрымкі звонку, як гэта наглядалася ў дачыненьні да іншых народаў (Палякаў, Украінцаў, Латышоў і інш.). Беларусы маглі разьлічваць выключна на сябе.

Месяцы травень, чэрвень, ліпень і жнівень 1917 г. былі выкарыстаныя БСГ дзеля арганізацыі беларускіх вайскавікоў. Першы такі гурток быў заснаваны ў Рызе 8 травеня 1917 г. у 24-ай тэлеграфічнай роце Язэпам Мамонькам. Падобныя гурткі паўсталі ў розных частках XII арміі на Паўночным фроньце, дзякуючы актыўнасьці названага Мамонькі, паруччыка Макарэвіча і Якуба Дадона. На балтыцкім адрэзку сярод маракоў «Балтыцкага флёту» выдзялілася значная група зь ген. Аляксяеўскім на чале. На румынскім фроньце ішла арганізацыйная

# Рэарганізацыя МТС і новыя цяжкасьці для сялянства

На працягу амаль 30-гадовага йснаваньня машына-трактарных станцыяў (МТС) камуністычнае кіраўніцтва няўпынна імкнулася пераканаць калгаснае сялянства аб вылучна дадатняй ролі іх у разьвіцьці сельскай гаспадаркі. Хрушчоў называў МТС «цытадэляй» камуністычнай партыі ў калгасах. На МТС было ўскладзена кіраўніцтва ўсёй гаспадарскай дзейнасьці калгасаў. Яны несьлі адказнасьць за сваечасовае й поўнае выкананьне калгасамі ўсіх відаў нарыхтовак сельскагаспадарскіх прадуктаў.

Навет зусім апошнімі часамі сакратар ЦК КП Беларусі Сурганаў у сваім артыкуле, які быў зьмешчаны ў часапісе «Коммунист Белоруссии» № 1, 1958 г., адзначыў, што «ў змаганьні за далейшы ўздым сельскай гаспадаркі вылучна адказная роля ўскладаецца на МТС.»

Гэтыя й ранейшыя дырэктывы камуністычнага кіраўніцтва й савецкага ўраду былі бясспрэчным законам у дачыненьні да МТС. Дзяржава ня толькі забясьпечвала МТС рознымі машынамі, але ўтрымлівала на бюджэце пэрсанал МТС, аплачвала выдаткі за будаўніцтва, паліва й іншыя адміністрацыйна- гаспадарскія мерапрыемствы.

Камуністычная партыя й савецкі ўрад стварылі для МТС вылучна спрыяльныя ўмовы дзейнасьці, якія ў большасьці выпадкаў не апраўдвалі тых мільярдных затратаў народных сродкаў, што аддаваліся на ўтрыманьне МТС.

Гаспадарскія ўзаемадачыненьні між МТС і калгасамі фармальна рэгуляваліся тыповай умовай, у якой пералічваліся працы, якія МТС забавязана правесьці ў калгасе ў пэўныя тэрміны. Аднак, на практыцы, МТС вельмі часта ігнаравалі выкананьне ўмоваў. Яны ня выконвалі свае працы ў вызначаныя тэрміны, а калі й выконвалі, дык вельмі дрэнна.

Безадказнае недатрымоўваньне ўмоваў з боку МТС вельмі часта прыносіла калгасам буйныя затраты. На Беларусі калгасы не хацелі карыстацца машынамі МТС. Прыкладам, пасьля камбайнаў заставалася шмат збожжа на зямлі; у зямлі заставалася таксама й палова бульбы пасьля бульбакапальных машынаў. Ня гледзячы на страты, калгасы пад прымусам павінны былі здаваць натураплату дзяржаве, як за добрасумленнае выкананьне працы ў вызначаны тэрмін.

Шмат непаразуменьняў паўставала між калгасамі й МТС з прычыны розных нормаў аплаты за аднолькавую працу на полі, але пад розныя культуры. Прыкладам, за адзін гэктар, узараны на аднолькавую глыбіню адным і тым-жа трактарам пад збожжавыя культуры, калгас абавязаны здаць натураплату збожжам, якое каштуе паводля дзяржаўных цэнаў 28 рублёў. Калі-ж гэты гэктар будзе засеяны кармовымі травамі, то кошт малака або мяса, якім павінна быць аддадзена натураплата, будзе каштаваць 42 рублі. А калі-ж пасадзіць на тым-жа гэктары бульбу, дык натураплата будзе каштаваць 106 рублёў.

Аднак ні арганізацыйныя формы МТС, ні дзейнасьць сыстэмы як такое, ні тым больш бязглуздыя нормы натураплаты не падлягалі абмяркоўваньню, а тым больш крытыцы. Дзяржава мела галоўную мэту, каб праз МТС забраць ад калгасаў найбольш натураплаты прадуктамі сельскай гаспадаркі. Апрача гэтага, празь сродкі вытворчасьці, якія знаходзіліся ў МТС, дзяржава трымала калгасы пад няспынным кантроляй. Гэтая мэта была дасягнутая: кажны год дзяржава атрымлівала мільярд пудоў збожжа, якое ўносілі калгасы за працу МТС, вялікую колькасьць малака, мяса, бульбы, лёну, цукровых буракоў ды іншых прадуктаў.

Усе гэтыя недарэчнасьці стварылі шмат непаразуменьняў між дзяржаўнымі прадпрыемствамі й калгасамі. Ужо ў пачатку мінулага году на мясцох пачаліся спробы шуканьня з боку некаторых калгасаў і МТС наладжаньня нейкіх лепшых узаемадачыненьняў міжсобку.

22 студзеня сёлета на нарадзе перадавікоў сельскай гаспадаркі Беларусі ў Менску Хрушчоў зусім нечакана ў сваім выступленьні спыніўся на адным «з важных пытаньняў гаспадарскага будаўніцтва — аб ролі машына-трактарных станцыяў у сучасных умовах». Відаць Хрушчоў у сваім выступе меў на мэце падрыхтаваць глебу для правядзеньня ўжо нямінучых пераменаў у сельскай гаспадарцы, каб выйсьці з таго арганізаванага крызісу, у якім апынулася сельская гаспадарка СССР.

Будучы галоўным прыхільнікам умацаваньня ролі МТС у сельскай гаспадарцы ды ўсебаковай кантролі МТС над дзейнасьцяй калгасаў Хрушчоў зусім зьмяніў цяпер сваю думку. У сваім выступе ён лічыць, што два гаспадары на адным полі — калгасы й МТС — ня могуць стварыць добрага парадку. Хрушчоў упікае МТС, што прадукцыя, атрыманая шляхам натураплаты, значна даражэйшая, чымся тая, якую дзяржава атрымлівае ад нарыхтовак і закупаў.

Аднак выступ Хрушчова ў Менску ня ўнёс яснасьці ў цэлым шэрагу пытаньняў.

25—26 лютага сёлета адбыўся пленум ЦК КПСС, на якім было разгледжана пытаньне «аб далейшым разьвіцьці калгаснага ладу й рэарганізацыі машына-трактарных станцыяў.» Пленум зацьвердзіў таксама тэзы адносна гэтага пытаньня, якія ўжо перададзеныя на г. зв. «ўсенароднае абмеркаваньне». Канчатковы парадак рэарганізацыі МТС будзе разглядацца на чарговай сэсіі Вярхоўнага Савету СССР, дзе справу будзе рэфэраваць сам Хрушчоў.

Фактычна пленум прынцыпова наважыўся «перайсьці да прадажы сельскагаспадарчых машынаў непасярэдня калгасам». МТС паступова празь некалькі гадоў будуць рэарганізаваныя ў рамонтна-тэхнічныя станцыі.

Да гэтага часу дзяржава пасярэдніцтвам МТС кіравала разьвіцьцём калгаснай гаспадаркі ў патрэбным для камуністычнае партыі кірунку. Праз МТС дзяржава атрымлівала натураплату, якая толькі па лініі збожжа складала 50 працэнтаў усіх дзяржаўных нарыхтовак. Цяпер-жа калгасы будуць мець свае собскія машыны. Праўда, пакульшто машыны будуць прадавацца толькі перадавым калгасам, якія маюць шмат грашовых сродкаў. Звычайныя й эканамічна слабыя калгасы будуць «вывучацца», каб ведаць, калі ім можна будзе таксама прадаваць дзяржаўную тэхніку. Тэзы некалькі разоў папярэджваюць, што пераход машынаў да калгасаў павінен быць паступовым, асьцярожным, без шаблёну й адміністраваньня, бо гэта «можа прынесьці толькі шкоду».

Паглядзім цяпер, як-жа выглядае справа ізь сродкамі калгасаў для закупу сельскагаспадарскіх машын. Усяго непадзельных фондаў у калгасах Беларусі на пачатку гэтага году было 3.550.000.000 рублёў. У МТС і машына-мэльярацыйных станцыях цяпер налічваецца на 1.576.000.000 рублёў markdown рознай тэхнікі. Але больш за палову гэтых машынаў ужо нельга ўжываць: значная частка машынаў паводля сваей канструкцыі ўжо ўстарэла, або зусім няпрыгодная да ўжытку. Паводля падлікаў для праданьня калгасам набярэцца ня больш, як на 800.000.000 рублёў розных машынаў. Аднак ужо падлічана, што толькі 68.000.000 рублёў калгасы змогуць выдаткаваць на набыцьцё для сябе сельскагаспадарскіх машынаў. Параўнальна нязначныя сродкі, адпушчаныя на закуп машынаў, тлумачацца наяўнасьцяй на Беларусі вялікае колькасьці калгасаў, якія сваім эканамічным становішчам не дасягнулі таго, каб ім камуністычнае кіраўніцтва БССР дазволіла набыць собскія машыны. Сакратар ЦК КП Беларусі Мазураў у сваім артыкуле, зьмешчаным у «Праўдзе» з 3 сакавіка сёлета, ускладае ўсю надзею на 34.000 камуністых і 148.000 камсамольцаў, якія працуюць у калгасах, што яны змогуць правесьці перабудову сельскае гаспадаркі.

Тэзы пакуль што не даюць ніякага адказу, на якіх умовах будуць прадавацца калгасам машыны й як будзе адбывацца нарыхтоўка прадуктаў сельскай гаспадаркі, каб замяніць натураплату.

Але затое ў тэзах шмат месца займае цікавае разважаньне аб ролі калгасаў у сацыялістычнай гаспадарцы. У тэзах ганьбяцца выказваньні й прапановы аб ператварэньні калгасаў у саўгасы. Пастаноўка такога пытаньня лічыцца няправільнай. Ня адкідаючы канчаткова справы ператварэньня калгасаў у саўгасы, тэзы Хрушчова раяць: «паступова павышаць узроўню пераводу калгаснай собскасьці на грамадзкія прынцыпы, і такім чынам уздымаць яе да ўзроўні агульнанароднай собскасьці».

У тэзах адчуваецца імкненьне камуністычнага кіраўніцтва апраўдацца перад калгасным сялянствам, што ні партыя, ні ўрад ні ў чым ня вінаватыя перад калгасамі. Партыя і ўрад запэўняюць, што яны «ніколі ня лічылі калгасы чужародным целам у сацыялістычным арганізьме».

Дзеля большай пераканальнасьці шчырых і дабрадзейных дачыненьняў камуністычнае партыі і ўраду да калгасаў, у тэзах адзначана, што «машына-трактарныя станцыі трацілі на працу ў калгасах значна больш за тое, што атрымлівала за гэтую працу дзяржава».

Да ліку іншых «дабрдзействаў» у тэзах залічаюцца й такія мерапрыемствы, як дармовая падрыхтоўка калгасных кадраў, выдаваньне буйных крэдытаў калгасам, а таксама насенных і навет харчовых пазыкаў. Аднак найбольшай «ляскай» для калгасаў — гэта тое, што на працягу ўсяго існаваньня калгаснага ладу, як падаюць тэзы, «ня было выпадку, каб за даўгі прадавалася гаспадарка (калгасаў) з малатка».

У гэтых цьверджаньнях тэзаў Хрушчова няма ні праўды, ні шчырасьці. Ці-ж не на Беларусі пастановай таго-ж самага ЦК КПСС і Савету міністраў СССР з 21 лютага 1957 г. было пастаноўлена зь земляў эканамічна слабых калгасаў зарганізаваць 57 новых саўгасаў і

(Заканчэньне на 9-ай бачыне)

# „Ці цар, ці чырвоны дыктатар - розьніцы няма“

Выдаваны ў Мюнхэне ілюстраваны часапіс „Quic“у сваім 11-ым нумары за 15 сакавіка зьмясьціў шэраг здымак з савецкага жыцьця з камэнтарамі да іх. Гэтыя здымкі, як і матар'ял для камэнтараў дала сям'я інжынера Альбэрта Ёзвіга, якая нядаўна вярнулася з Савецкага Саюзу, прабыўшы там 12 год.

«Гэтыя 12 год у Саветах былі горкімі, — кажа сам інжынер Ёзвіг, — але яны былі для нас карыснымі, бо мы шмат чаго пазналі».

Тут правільна падчыркваецца ў часапісе, што турыстыя бачаць у Савецкім Саюзе толькі тое, што хочаць ці, што ім дазволяць паказаць, у той час як сям'я Ёзвіг — бацька, маці, сын і дачка — пражыўшы ў савецкім асяродзьдзі 12 гадоў, мелі магчымасьць бачыць і правільна ацэньваць савецкую запраўднасьць. Ясна, як сям'я высока-кваліфікаванага спэцыялістага, яны жылі бліжэй да ўзроўню савецкай пануючай клясы, гэта, аднак, не перашкодзіла ім бачыць тэй рэальнасьці, якая высьлізгваецца спад вачэй заходніх турыстых.

Прыводзіцца тут цэлы шэраг фактаў, якія сьветчаць аб вялізарных супярэчнасьцях у савецкім «бясклясавым грамадзтве». Але нас тут перадусім цікавіць адно пытаньне, на якое зачыняюць вочы расейскія шавіністыя на эміграцыі ды іхнія заходнія падпявалы — пытаньне нацыянальнае.

19-гадовы Кляўс, сын інжынера Ёзвіга, вучыўся на ўнівэрсытэце ў Тыфлісе. Вось ягоныя словы:

«На ўнівэрсытэце ў Тыфлісе мае калегі расказвалі дзіўныя рэчы. Я думаў заўсёды, што Расейцы (аўтар мае на думцы ўсё жыхарства СССР, як памылкова часта ўважаецца тут на захадзе — Рэд.) — гэта адна нацыя. Тут-жа ізь зьдзіўленьнем я пачуў, што ў Савецкім Саюзе жыве больш за сотню розных нацыяў у 16 саюзных рэспубліках. Расейцы — толькі адна з гэтых нацыяў. Мае сябры з Украіны, Грузіі, Беларусі, ці Сібіру часта вельмі войстра выступалі супраць «пануючай маскоўскай вялікарасейшчыны», як яны казалі. Гэтая моладзь, народжаная ў сталінскай дзяржаве, узгадаваная ў сталінскай школе, захаплівалася вялікімі бунтаўнікамі супраць Масквы. Вольны Казак Разін, ці змагар за волю Шаміль — гэта заўсёды яшчэ героі моладзі. Іхныя песьні — не забытыя. Слова «Масква» ад царскіх яшчэ часоў азначае прыгнёт для шматлікіх народаў Расеі. «Мы ненавідзім прымусу!» — крычалі мае сябры, калі ў сакавіку 1956 году дэманстравалі на вуліцах Тыфлісу супраць расейскае апекі. «Ці там кіруе цар, ці чырвоны дыктатар — розьніцы няма» — казалі мае маладыя савецкія сябры.»

Вышэй прыведзенае — гэта ня словы «расчленителя России», ці якогась «сепаратиста». Кляўс Ёзвіг — звычайны нямецкі студэнт, якому давялося студыяваць разам з савецкай моладзяй, у савецкім унівэрсытэце. Але што на гэта могуць адказаць абаронцы «адзінанепадзельнай» расейскай турмы народаў, якія пры ўсялякіх нагодах нахабна ілгуць, стараючыся давесьці Захаду, што ніякага нацыянальнага пытаньня ні нацыянальнай дыскрымінацыі ў СССР няма? Што адкажуць на гэта тыя заходнія «экспэрты» ў справах Савецкага Саюзу, якія так часта-густа бяруцца на вудачку расейскіх вялікадзяржаўнікаў?

**А. Галубіцкі**

# Рэгабілітацыя Валерага Маракова

Менская газэта «Літаратура і Мастацтва» ў № 17 за 26 лютага сёлета зьмясьціла два вершы «зьліквідаванага» ў сярэдзіне трыццатых гадоў ведамага беларускага паэты Валерага Маракова, кароткую зацемку аб ягоным жыцьці й творчасьці С. Баркоўскага й фотаздымку паэты.

У біяграфічнай зацемцы сказана: «Беларускі паэта Валеры Дзьмітрыявіч Маракоў нарадзіўся 14 сакавіка 1909 году ў вёсцы Акалонія, недалёка ад Менску. У часе імпэрыялістычнай вайны Маракоў разам зь сям'ёю жыў у Мцэнску і Рамнах і толькі восеньню 1920 году вярнуўся ў Менск . . .

Працягвае вучобу В. Маракоў у Менскім пэдтэхнікуме, а ў 1934 годзе заканчвае літаратурна-лінгвістычны аддзел пэдінстытуту імя М. Горкага і працуе настаўнікам у Бабруйску.

Памёр В. Маракоў 7 траўня 1940 году».

Аб арышце й высылцы паэты ў зацемцы ня сказана ні слова. Навет ня сказана аб тым, дзе — у якой мясцовасьці — памёр паэта ў 1940 г. Аб тым, што Маракоў не заўсёды пяяў у такт бальшавіцкім патрабаваньням, сказана вельмі агульна: «Дарога творчых пошукаў свае тэмы і свайго голасу была не заўсёды роўнай у В. Маракова».

**ХТО ЯШЧЭ НЕ ПАДПІСАЎСЯ НА ЗБОРНІК ПАЭЗІІ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА, ПАВІНЕН ЗРАБІЦЬ ГЭТА БЕЗАДКЛАДНА!**
**ЦАНА АДНАГО ЭГЗЭМПЛЯРА ЗБОРНІКА — 3 ам. даляры.**

ваньні людзей слынуў партызанскі аддзел Яворскага і аддзелы «дзікай дывізіі» ў раёне Быхава. Усё гэта вытварала варожыя настроі сялянства да Корпусу Мусьніцкага, як да абаронцы зьненавіджаных маёнткаўладальнікаў.

### Самавызначэньне Беларусі і яе ворагі

Апрача Корпусу Мусьніцкага, другім акупантам Беларусі станавіліся бальшавікі. Галаўнакамандуючы заходнім фронтам Мясьнікоў і камісар на заходнія землі Ляндэр пры дапамозе запанованых бальшавікамі войскаў і рэвалюцыйных камітэтаў устанаўлялі савецкую ўладу ў паасобных гарадох і раённых цэнтрах Беларусі. Вось-жа беларускі вызвольны рух у гэты выращальны мамэнт і пастанавіў узяць лёс сваёй бацькаўшчыны ў свае рукі ды ўстанавіць нацыянальна-эканамічны парадак згодны з воляй беларускага народу, а не бальшавіцкай ці польскай палітычнай праграмай. Так адбыўся Ўсебеларускі Кангрэс 28—30 сьнежня 1917 г. (15—18 сьн. 1917 па стар. стылю), які абвесьціў заснаваньне Беларускай Народнай Рэспублікі ў духу беларускіх ідэялаў.

Пакліканьне да жыцьця БНР прадстаўнікамі ўсяго Беларускага народу ў мамэньце, калі нашыя суседзі хацелі прыкрыць яго сваімі «апякунчымі» крыламі, як дабрадзеі і збавіцелі, было запраўдным самавызначэньнем Беларускага народу, адкідаючым чужацкую «апеку» і чужацкую ідэялёгію. У гэтым заключаецца вялізная гістарычная вартасьць Кангрэсу і ягоных пастановаў. Нічога дзіўнага, што бальшавікі, адразу ўцяміўшы ідэйны сэнс пастановаў Кангрэсу, імкнуліся пры дапамозе ваеннай сілы не дапусьціць да ажыцьцяўленьня волі самавызначыўшагася народу.

І ня толькі бальшавікі былі станоўкімі праціўнікамі волі беларускага народу. Да іх належалі расейскія нацыяналістыя й чорнасоценцы, царскія ахвіцэры, Палякі й маёнткаўладальнікі. Гэта стала відавочна, калі Беларуская Вайсковая Рада ў першых днях студзеня 1918 г. (або ў канцы сьнежня 1917 ст. ст.) пачала сьцягіваць у Менск беларускія вайсковыя аддзелы зь іншых аддаленых мясцовасьцяў, а таксама 289 запасны полк пяхоты, які быў ачышчаны ад небеларускіх элемэнтаў, дзеля забясьпечаньня ўлады БНР у сталіцы (Крывавы шлях беларускай нацдэмакрацыі, Менск, 1931, 56—57), тады ўсе названыя варожыя беларускаму руху элемэнты выявілі супрацьдзеяньне, сабатаж ды паралізаваньне загадаў Бел. Вайсковай Рады. Галоўнай пружынай антыбеларускай акцыі быў чорнасоценец Савінкоў, які быў прыдзелены Керанскім да штабу Доўбара-Мусьніцкага, як лучнік ад Галоўнай Кватэры ген. Духоніна. Вось-жа, як супрацьдзеяньне беларускай вайсковай канцэнтрацыі на Беларусі ў раёне Менску Доўбар-Мусьніцкі ў паразуменьні з правадырамі расейскай контррэвалюцыі (Керанскім, Духонінам і Савінковам) правёў канцэнтрацыю ўсяго свайго Корпусу ў трыкутніку Рагачоў — Жлобін — Бабруйск. Канцэнтрацыя гэтая мела з аднаго боку ўстанавіць кантролю на чыгунцы з Румынскага фронту (Адэса — Бахмач — Гомель — Менск), дзе знаходзіўся галоўны асяродак беларускіх войскаў: 6-ты Таўрагенскі пагранічны конны полк, названы І-м гусарскім беларускім нацыянальным палком, 4-ты армейскі корпус у складзе 30-й і 40-й пяхотнай дывізіяў; 4-я пяхотная дывізія, 26-ты аўтапанцырны аддзел (Крывавы шлях беларускай нацдэмакрацыі, 56—57; Чаму ды як была створаная БССР Я. Менскі, Беларускі Зборнік № I, Мюнхэн 1955, 15), а з другога боку апанаваць Магілёў — Галоўную Кватэру Крыленкі, бальшавіцкага галоўна-камандуючага ды ачысьціць Беларусь ад бальшавіцкай улады. Усе гэтыя мерапрыемствы былі праведзеныя на працягу студзеня 1918 г.

### Дух беларускай нацыянальнай рэвалюцыі

Але й тут выявіўся дух беларускай нацыянальнай рэвалюцыі. Багінскі (б. 213) сьцьвярджае, што ў часеператасоўкі «польскіх» аддзелаў, у часе праводжаных рэквізыцыяў і ўстанаўляньня сваіх парадкаў, «кажная вёска была абаронным пунктам» супраць войскаў Доўбар-Мусьніцкага. З другога боку Корпус таяў, як вясьняны сьнег з прычыны дэзэрцыі жаўнераў і нежаданьня змагацца за інтарэсы маёнткаўладальнікаў. Сам Доўбар (Мое вспомненя, 209) кажа, што ў некаторых палкох засталося толькі 200 чалавек. Поўны распад Корпусу ўтрымоўваўся выключна шматлікімі ахвіцэрскімі кадрамі, зь якіх твbooрыліся пацыфікацыйныя аддзелы супраць апорных беларускіх вёсак (Гросфэльд, 77).

На працягу студзеня 1918 г. дасьпявала нямецкая пастанова галоўнага камандаваньня ў Берасьці ў паразуменьні з Бэрлінам і Венай аб далейшай афэнзыве на ўсход і заняцьця Украіны і Беларусі па Дняпро. Яна мела за сваю мэту з аднаго боку паправіць цяжкае гаспадарскае палажэньне Нямеччыны й Аўстра-Вугрыі, а з другога — прымусіць бальшавіцкі ўрад да прыняцьця ўмоваў сэпэратнага міру ў Берасьці.

У сувязі з гэтай праектаванай афэнзывай, цікава спыніцца на праўдападобнай нямецкай палітыцы адносна Доўбар-Мусьніцкага і Беларусі наагул.

### Нямецкая палітыка ў дачыненьні да Беларусаў і Палякаў

Зь Беларусамі й беларускім вызвольным рухам Немцы сутыкнуліся зараз-жа пасьля заняцьця Заходняй Беларусі. Яны яго вывучалі, часткова падтрымлівалі яго разьвіцьцё, асабліва, школьніцтва й прэсу, але ня мелі ў сваіх плянах адбудовы беларускай дзяржавы. Ведалі таксама, што на другім баку фронту ад часу выбуху расейскай рэвалюцыі разьвіваўся беларускі вызвольны рух, які найлепш выявіўся на Ўсебеларускім Кангрэсе ў канцы 1917 г., што самавызначыў далейшы лёс Беларусі. Аб гэтым Кангрэсе і яго разагнаньні бальшавікамі гаварыла нямецкае прадстаўніцтва ў Берасьці, даказваючы Троцкаму ўвесь бальшавіцкі туман прапаганды аб праве народаў на самавызначэньне. Але, міма ўсяго, Немцы самі ў той час зусім ня кіраваліся ідэяй самавызначэньня народаў, толькі сваімі інтарэсамі.

Зразумела, Немцы лічыліся зь існуючай рэчаіснасьцю. Гэтак яны навязалі лучнасьць з Украінскай Радай і сталі падрыхтоўваць сэпаратны мір з Украінай. У канцы студзеня 1918 г. навязалі лучнасьць зь нямецкім камандаваньнем і прадстаўнікі маёнткаўладальнікаў Беларусі ад імені «Рады Польскей Земі Мінскей» і прэзыдыюму «Зьвёнску Войсковых Полякув Фронту Заходнего» — філіі Начполя, які пераехаў у Кіеў. Дэлегацыя ў складзе палк. Асмалоўскага (бел. маёнтка-ўладальніка), сябры Начполя, харужага Рамоцкага і бел. м.у.Козел-Паклеўскага, як тлумача, была прынята ў Берасьці Гофманам на пачатку лютага 1918 г. Як вынікае із успамінаў Асмалоўскага (Гросфэльд, 88), тэмай гутаркі зь нямецкім Галоўным Камандаваньнем была просьба Асмалоўскага ад імені «літоўскіх (бел.) зуброў» — г. зн. маёнткаўладальнікаў заняць Беларусь нямецкімі войскамі, прычым разам з Рамоцкім сьцьвярджаў, што насельніцтва сустрэне прыхільна нямецкія войскі. Другой справай была дагаворанасьць, «на якіх умовах адбудзецца супольна зь Немцамі акупацыя Беларусі» (Багінскі, 299).

Асмалоўскі пры гэтым зусім ня высказваўся, каб пасьля акупацыі Беларусі далучыць яе да Рады Рэгенцыйнай (Польшчы), як гэтага хацелі Палякі ў Варшаве і Кіеве, але, каб Беларусь была адарваная ад Масквы. У гэтым праяўляўся «літоўскі сэпаратызм Асмалоўскага ў супрацьстаўленьні да Доўбар-Мусьніцкага, які ўсімі спосабамі імкнуўся да зьліцьця з Польшчай. Немцы аднесьліся да дэлегацыі Асмалоўскага прыхільна, але канкрэтныя прапановы адлажылі на пазьней.

# Пасьля ўсьмешак была разьня Вугорцаў

**АД РЭДАКЦЫІ: Лёнданскі польскі тыднёвік «Ожэл Бялы» (№ 11 за 15. 3. 1958) зьмясьціў вельмі цікавы артыкул Р. П. пад вышэйпададзеным загалоўкам, які ніжэй перадрукоўваем з гледзішча на яго актуальную вартасьць. Гэты артыкул, абапёрты на разважаньнях і вывадах двух найпаважнейшых амэрыканскіх і ангельскіх ворганаў, вельмі трапна раскрывае запраўдныя мэты Савецкага Саюзу, зьвязаныя з плянаванай канфэрэнцыяй на найвышэйшым узроўні.**

✳

Два нядаўныя артыкулы, адзін у «Нью Ёрк Гэральд Трыбюн», другі ў лёнданскім «Таймсе», дасканальна насьветлілі сытуацыю, якая вытварылася ў сувязі із намаганьнямі скліканьня канфэрэнцыі на «найвышэйшай узроўні».

«Нью Ёрк Гэральд Трыбюн» задзержваўся над тым, чаму Саветы, хаця так вельмі хочуць гэтай канфэрэнцыі, не згаджаюцца на ніводную канкрэтную ўступку, каб палегчыць яе скліканьне. Згода Масквы на канфэрэнцыю была дасюль толькі фармальнай. Савецкі ўрад згадзіўся, каб канфэрэнцыя на «найвышэйшай узроўні» была папярэджаная канфэрэнцыяй міністраў замежных справаў, але ўзалежніў гэтую згоду ад новых перадумоваў і засьцярогаў. Таксама высунуў праект, каб канфэрэнцыя на «найвышэйшай узроўні» адбылася ў Амэрыцы, што мелася быць жэстам ветлівасьці ў дачыненьні да прэзыдэнта Айзэнгаўэра, хаця магчыма Хрушчоў такім чынам проста хацеў заспакоіць сваю цікавасьць і амбіцыю пабачыць Задзіночаныя Штаты.

Затое ў справах прынцыповых Саветы — ня глядзячы на тое, што хочуць канфэрэнцыі — ня робяць аніякіх уступак, у прыватнасьці ня хочуць абгаварваць справы падзелу Эўропы, гэта значыць лёсу паняволеных народаў і справы задзіночаньня Нямеччыны.

Саветы хочуць мець канфэрэнцыю, але ня хочуць за яе плаціць. Уступкі павінен зрабіць Захад, у ніякім выпадку Саветы. Адным словам, Саветы жадаюць паўтарэньня першай канфэрэнцыі на «найвышэйшай узроўні» ў Жэнэве ў 1955 годзе. Фармальна ня прынесла яна ніякіх зьменаў у суадносінах сілаў у сьвеце. Фактычна аднак пасьля гэнай канфэрэнцыі «ўсьмешак» — як зазначае «Нью Ёрк Гэральд Трыбюн» — атмасфэра ў сьвеце зьмянілася прынцыпова і то на вылучную карысьць Саветаў.

Канфэрэнцыя «ўсьмешак» разбудзіла якраз на Захадзе хвальшывыя надзеі, аслабіла саюз заходніх патугаў і аслабіла вайсковыя натугі, якія выдаваліся многім дзейнікам ужо зусім непатрэбныя. Канфэрэнцыя «ўсьмешак» дала затое Саветам час для далейшага ўмацоўваньня, збраеньня і... прыгнечваньня народаў.

Настрой гэты зьмяніўся пад уплывам неспадзяванага прыпадку, якім было выпушчэньне «спутніка». Рэакцыя Захаду, а асабліва Задзіночаных Штатаў на «спутніка» выразілася ў падвоенай мабілізацыі сілаў, у ўзмацненьні палітычных і вайсковых высілкаў, у гальванізацыі Атлянтычнага пакту. Саветы пераканаліся, што іхныя ўдачы із «спутнікам» разбудзілі на Захадзе новую энэргію. Для Масквы была гэта рэакцыя як найболей непажаданая. Крэмль раптоўна зразумеў, што значна лепш служыць ягонай палітыцы, сьціраванай на раззбраеньне праціўніка, тактыка «ўсьмешак», тым больш, што яна нічога не каштуе. Адсюль сяньняшняе настойваньне Масквы, каб паўтарылася жэнэўскае відовішча з 1955 году. Можа затрэяно ўражаньне, якое выклікаў «спутнік», можа ўзноў зможа засаніць Захад.

«Нью Ёрк Гэральд Трыбюн» закончыў свае вывады заўвагай, што Саветы на новай канфэрэнцыі на «найвышэйшай узроўні» могуць толькі выйграць, а нічога ня страціць. Захад затое можа ўсё страціць, а нічога не дасягнуць. Газэта таму заклікала, каб Далес і ў далейшым адкідаў упорыстыя жаданьні Масквы.

Тактыка Далеса кіруецца якраз гэтай сьведамасьцяй, але мусіць ён лічыцца із саюзьнікамі Задзіночаных Штатаў. Саюзьнікі гэтыя чакаюць ад новага спатканьня на «найвышэйшай узроўні» некаторых пазытыўных вынікаў. У кажным выпадку часьць ангельскай апініі спадзяецца, што канфэрэнцыя адсуне здань вадароднай бомбы. Гэтая часьць брытанскай апініі ўзапраўды падпала пад «абсэсію» бомбы і пад уплывам безадказных колаў ці скарэй асоб што раз больш занураецца ў стан, які мяжуе зь гістэрыяй. Гэтая частка апініі робіць націск на ўрад у кірунку як найшыбчэйшага скліканьня канфэрэнцыі. Урад пад гэтым націскам знаходзіцца выразна ў дэфэнзыве. Каб успакоіць гэтую часьць апініі, запрапанаваў Маскве пакт неагрэсіі.

На шчасьце зарысавалася ўжо і ў Ангельшчыне рэакцыя супраць такіх небясьпечных настрояў. Выражэньнем яе быў артыкул «Таймса», які ўважаў за адпаведнае сьцьвердзіць, што ў Вялікай Брытаніі, паміма ўсяго, існуе «калектыўная воля супраціву ўсякай агрэсіі», што Вільгэльм II і Гітлер памыліліся, уважаючы, што Ангельшчына не адважыцца змагацца і што Хрушчоў памыліўся-б таксама, калі-б рабіў падобныя прыпушчэньні. Напасьледак «Таймс» падчырквае ў цэлым артыкуле, што «мы далі ўжо за шмат Саветам, нічога за гэта не атрымаўшы».

І тут хаваецца корань справы. «Нью Ёрк Гэральд Трыбюн» і «Таймс» згаджаюцца ў вымаганьні ўступак ад Саветаў і ў паўстрымоўваньні Захаду перад дальшымі адваротамі. Калі Саветам гэтак вельмі залежыць на канфэрэнцыі на «найвышэйшай узроўні», дык хай зробяць прынцыповыя ўступкі скажам у Сярэдняй Эўропе, дзе трымаюць ў руках акупаваныя тэрыторыі.

Чаму ў Сярэдняй Эўропе? Таму, што там Саветы зрабілі пасьля першай канфэрэнцыі на «найвышэйшай узроўні» найбольш агіднае злачынства ў сучаснасьці. Пасьля канфэрэнцыі «ўсьмешак» прыйшлі якраз выпадкі ў Пазнані, паўстаньне ў Вугоршчыне й разьня Вугорцаў, праведзеная савецкімі войскамі. Сьветавая апінія асудзіла савецкае злачынства, выражэньнем чаго была пастанова Задзіночаных Нацыяў, якія 60 галасамі супраць 10 сьцьвердзілі, што Савецкі Саюз нарушыў Карту ЗН і «пазбавіў Вугоршчыну вольнасьці й палітычнай незалежнасьці, а вугорскі народ элемэнтарных правоў чалавека».

Пасьля гэтых рэзалюцыяў цяжка будзе прадстаўніком заходніх вялікадзяржаваў нанава спатыкацца з Хрушчовам, каб не запытацца ў яго: «Каін, што зрабіў ты із сваім братам Вугорцам?» Цяжка ім будзе не дамагацца сатысфакцыі. У кажным выпадку бяз гэтай сатысфакцыі новая канфэрэнцыя на «нйвышэйшай узроўні» скончыцца для Захаду новым фіяскам або новай драмай, калі Саветы пераканаюцца, што гэтая канфэрэнцыя ўпаўнамочыла іх для далейшага зьдзеку над паняволенымі народамі.

**Р. П.**

# Дзьве гутаркі з праф. Ант. Адамовічам

**(З радыёвай хвалі «Вызваленьне»)**

## I

### ЯНКА КУПАЛА СОРАК ГОД ТАМУ

**Пытаньне:** Дзядзька Антось, учора вось увечары я пераглядаў шасьцітомнік Купалы, апошняе выданьне. Мне кінулася ў вочы, што ўвесь 1917 год — год Кастрычніцкае рэвалюцыі — Купала творча маўчаў. У шасьцітомніку ніводнага Купалавага вершу з 1917-га году.

**Адказ:** Маўчаў? І так, і ня зусім так. Гэта было, праўду кажучы, не маўчаньне, а насьцярожанасьць. Пачалася яна яшчэ ў 16-ым годзе, а ў 1918-ым вылілася ў вадкрытую варожасьць да бальшавізму, сэнс якога паэта адразу-ж зразумеў. Вось чытай адсюль.

**Пытаньне:** А гэта што за кніжка ў вас?

**Адказ:** А гэта «Спадчына», выбар паэзіі Янкі Купалы, што выдала беларускае выдавецтва «Бацькаўшчына» ў Мюнхэне ў 1955 годзе.

«Для Бацькаўшчыны»...  
Я ўзноў заснуўшую, было, жалейку  
Бяру і пробую ў ёй галасоў:  
Ці хопіць сьветлых, звонкіх думак-слоў,  
Ці гладка пойдзе песьня-дабрадзейка?

І пачынаю граць з **трывогай** нейкай,  
Хоць песьня як і з даўных б'е часоў...

**Пытаньне:** Калі гэты верш напісаны?

**Адказ:** За год пасьля бальшавіцкага кастрычніка, калі паэта пабачыў, **што** бальшавізм прынёс Беларусі.

**Пытаньне:** Ці пазьней Купала разгарнуў у сваіх творах гэтую трывогу, якая, бясспрэчна, вычуваецца ў ягоным вершы «Для Бацькаўшчыны»?

**Адказ:** А як-жа! У вершы «Крыўда», датаваным 30 кастрычніка 1918 году, Купала апісвае, як людзі Крыўду адолелі, сьцідаючы расейскага цара; паэта ўсхвалёвана выказвае спадзяваньні, што ўзбудзіў у народзе рэвалюцыйны 1917 год:

І мілай пацехай зазьзяла  
І доля і слава людзкая,  
Дый толькі, знаць, слава і хвала  
Недаўгавечнай бывае.

Чытай далей апошнюю зваротку:

Раскованы раб сябе **выдаў** —  
**Ня ўзьнёсься ўвысь** дух чалавечы,  
Нявольнік пабратаўся з Крыўдай  
І ў помач ёй даў свае плечы.

Вось-жа бальшавікоў Купала вызначыў як «раскованых рабоў», і ў далейшых сваіх творах часта ўжываў гэтае азначэньне.

**Пытаньне:** Скажэце, Дзядзька Антось, ці савецкая літаратурная крытыка не спрабавала паясьняць гэтыя вершы, як пісаныя супраць Немцаў, што былі ў 18-ым годзе на Беларусі?

**Адказ:** Было й гэткае. Калі гramілі «нацдэмаў» на пачатку 30-х год, дык партыйны крытык Лукаш Бэндэ спрабаваў (праўда, асьцярожна) прыпісваць, заміж антыбальшавіцкасьці, антынямецкасьць Купалавым творам 18-га году. Але-ж Купала ня быў і аднаго дня пад нямецкай акупацыяй. Усе ягоныя наймацнейшыя антыбальшавіцкія рэчы пісаныя ў Смаленску пад бальшавікамі. Не дарма, зрэшты, Купалавых твораў 1918-га году, за выняткам пары ўсяго рэчаў, і ня знойдзеш у ніводным савецкім выданьні.

**Пытаньне: У мяне яшчэ адно пытаньне: У Купалы ёсьць санэт, загалоўлены «Наша гаспадарка». Ён канчаецца гэткімі словамі:**

Так гаспадарым мы і дома, і за домам,  
Усё ждучы пацехі зь севу і жніва,  
Ждучы дарма, як летам жджэ расы трава.  
Чужы й свой хлеб станавіцца жорсткім комам  
І душыць кліч: ці доўга будзе нам заломам  
Варшава панская і царская Масква?

**Адказ:** Ну вось, гэта таксама верш з тае пары. І цікава, што напісаны ён якраз на першыя ўгодкі бальшавіцкае рэвалюцыі, 1-га лістапада 1918 году, — тымчасам, як Масква ўжо ня была царскай.

**Пытаньне:** Дык як тады, скажэце, калі ласка, разумець такую неадпаведнасьць, як «царская Масква», калі цара ўжо ня было?

**Адказ:** А разумець трэба так, як разумеў тады Купала: для Беларусі бальшавіцкі «кастрычнік» ніякае палёгкі ня прынёс.

## II

### ДАКУМАНТЫ І ФАКТЫ АБ ПАДЗЕЯХ НА БЕЛАРУСІ СОРАК ГОД ТАМУ

**Пытаньне:** 9-га сакавіка 1918-га году Выканаўчы Камітэт Рады І-га Ўсебеларускага Кангрэсу выдаў Другую Ўстаўную Грамату да народаў Беларусі. Чым гэты дакумант найбольш характэрны?

**Адказ:** Азначыць яго можна вельмі коратка: **канстытуцыя.** Гэта быў закончаны, але не разгорнуты асноўны закон Беларускай Народнай Рэспублікі. Пэўную канстытуцыю Беларускай Народнай

**(Заканчэньне на 10-ай бачыне)**

# Рэарганізацыя МТС і новыя цяжкасьці для сялянства

**(Заканчэньне з 8-ай бачыны)**

30 саўгасаў узбуйніць? Толькі за апошнія два гады на Беларусі было зьліквідавана 489 адсталых калгасаў і 30 машына-трактарных станцыяў, зь якіх створана 75 новых саўгасаў і 78 саўгасаў узбуйнена. Беларусь ня была вынятнам у гэтым пытаньні. Камуністычнае кіраўніцтва як і ўрад ператваралі і ператвараюць калгасы ў вагульнанародную собскасьць бязь ніякай пасьлядоўнасьці. Каля 100.000 калгасьнікаў на Беларусі пастановай былі ператвораныя ў саўгасных батракоў.

Савецкая дзяржава прыкідваецца й цьвердзіць, што калгасы не даплачваюць дзяржаве за працу машынаў МТС. І ў тых-жа тэзах адзначана, што калгасы адыгрываюць наважальную ролю ў разьвіцьці сельскай гаспадаркі, бо яны даюць дзяржаве 70% нарыхтовак збожжа, дзьве трэйція мяса й малака.

Запраўды маемасьць калгасаў не прадавалася з малатка, аднак было і ёсьць шмат калгасаў, у якіх пасьля выканьньня дзяржаўных нарыхтовак і натураплаты за работу МТС застаюцца жабрацкія нормы збожжа, бульбы й капейкі на аплату аднаго працадня.

Рэарганізацыя МТС выкліканая незадаваленьнем калгаснага сялянства дзейнасьцяй дзяржаўнай арганізацыі, на якую была ўскладзеная кантроль і кіраўніцтва калгасамі, а таксама забясьпечаньне нарыхтовак сельскагаспадарскай прадукцыі.

Неаднаразовыя папярэджаньні ў тэзах не сьпяшацца, а паволі і ўдумліва пераходзіць на продаж машынаў калгасам, сьветчаць аб няўпэўненасьці камуністычнага кіраўніцтва, што рэарганізацыя не адаб'ецца адмоўна на нарыхтоўках збожжа й іншых прадуктаў.

Чакаць якой-небудзь палёгкі й палепшаньня матарыяльнага становішча калгаснаму сялянству ад гэтай рэарганізацыі ня прыходзіцца. Калгасам патрэбныя будуць вялікія грашовыя сяродкі на набыцьцё ад дзяржавы машынаў. Прыдзецца здаваць дзяржаве як найбольш розных прадуктаў, каб мець гэтыя грошы. Натуральная аплата працадня калгасьнікам будзе значна зьменшаная, а ў некаторых калгасах і зусім пераведзеная толькі на грошы. Чакаць павышэньня аплаты працаднёў грашыма таксама няма надзеі, бо ёсьць ужо некаторыя адзнакі, што з агульных грашовых сяродкаў будуць значна павялічаныя працэнтныя адлічэньні ў непадзельны фонд калгасаў. Усё гэта разам зводзіцца да таго, каб ператварыць калгасы ў саўгасы, а калгаснае сялянства ў батракоў.

**В. Будзімер**

### Пляны Доўбара-Мусьніцкага

Тымчасам Доўбар-Мусьніцкі зактывізаваў сваю дзейнасьць, каб, з аднаго боку, акупаваць як найбольшую прастору Беларусі, а з другога, каб навязаць лучнасьць з Радай Рэгенцыйнай у Варшаве, думаючы што ўдасца Беларусь далучыць да Польшчы. 6 лютага ён тэлеграфаваў да ген. Гофмана ў Берасьце, што «польскі корпус часова заняў трыкутнік Рагачоў — Жлобін — Бабруйск з цьвярдыняй» і просіць прапусьціць «нашу дэлегацыю ў Варшаву, каб паразумецца з Радай Рэгенцыйнай» (Гросфэльд, 89). Таго-ж самага дня (6 лют.) ён выслаў ліст да барона Дангля ў Менск, каб ён ад імені Начполя падрыхтаваў акупацыю Менску пры дапамозе эсаула зь «дзікой дывізіі» Ікаева, былшага падуладнага ген. Карнілава, зазначаючы, што Немцы ідуць таксама на Менск, а 11 лютага была высланая ад Корпусу іншая дэлегацыя ў Варшаву. Складалася яна з 5 асобаў, да якіх між іншымі належалі палк. Масьціцкі, сябры Начполя Бісьпінга, бел. абш. ды В. Ваньковіча, намесьніка старшыні Рады Польскай Менскай Зямлі. Да дэлегацыі былі прыдзеленыя 2 эскадроны кавалерыі з 2 кулямётамі. Яна мела сілай прабіцца праз фронт і за ўсякую цану навязаць лучнасьць з Радай Рэгенцыйнай. Аднак яна да Варшавы не дайшла. Частка яе зьгінула ў баёх з бальшавіцкімі аддзеламі ды сялянскай самаабаронай, рэшта была арыштаваная мясцовымі беларускімі ўладамі.

Да Варшавы дайшла, пры дапамозе ген. Гофмана, першая дэлегацыя, у што мала было веры ў Доўбара. Рада Рэгенцыйная давала ёй наступныя інструкцыі:

> «Ваш праект пашырэньня сучаснай ваеннай акупацыі на ўсход на далейшыя беларускія землі з мэтай вызваленьня краіны ад бальшавіцкіх уплываў і абароны мясцовага насельніцтва, ня можа сустрэць нашага нэгатыўнага настаўленьня. Ад камандаваньня таго войска залежыць, якімі спосабамі дасягнуць гэтую мэту. Думаем, што трэба ўсімі спосабамі супрацьдзеіць дэструкцыйнай бальшавіцкай прапагандзе ў радох польскага войска, што галоўнай справай ёсьць утрыманьне ў войску дысцыпліны, а найбольшым няшчасьцем было-б, калі-б войска скапітулявала перад бальшавікамі».
>
> 13 лютага 1918 г.
>
> («Газэта Польска», Масква, 1. 3. 1917).

Як бачым, Рада Рэгенцыйная не дала ніякіх надзеяў, ніякіх абяцаньняў, а толькі высказала некаторыя «добрыя рады», ведамыя добра кажнаму чалавеку небальшавіцкіх перакананьняў. Гэткі ляканічны адказ Рады быў выражэньнем агульна-польскага абурэньня ў тым часе з прычыны пераданьня Немцамі Украіне Холмшчыны (9 лютага 1918).

Вяртаючыся назад, дэлегацыя наведала зноў Гофмана ў Берасьці, які паведамляў тэлеграфічна Доўбара, што высылае Рамоцкага зь нямецкімі прапановамі супрацоўніцтва. Рамоцкі 19 лют. 1918 быў прывезены нямецкім самалётам у Бабруйск ды прывёз адказ Рады Рэгенцыйнай ды 8 пунктаў нямецкіх прапановаў. Сярод іх найважнейшымі былі 5 першых: 1. супольныя ваенныя апэрацыі ў кірунку Менску, каб як найхутчэй вызваліць гэты горад ад бальшавікоў; 2. як толькі наступіць сутык нямецкіх і польскіх войскаў справа падпарадкаваньня Корпусу нямецкаму камандаваньню будзе дасягнута пры дапамозе паразумленьня абедзьвюх старон; 3. Немцы згаджаюцца даць грашовую дапамогу Корпусу; 4. Корпус павінен здабыць якнайбольш чыгуначнага тавару, жывёлы, корму; 5. паварот ці лепш кажучы пераезд Корпусу ў Польшчу ўважаецца за немагчымы (Багінскі, 267).

Доўбар-Мусьніцкі ўсе гэтыя прапановы прыняў і выслаў радыёвую тэлеграму да Гофмана, што гатовы ўдзельнічаць у супольнай нарадзе дзеля ўдакладненьня многіх пытаньняў. Выклікала гэта нездаваленьне эндэцкага табару з «Начэльнай Рады Польскіх Сіл Збройных» у Кіеве, якая ўтрымоўвала блізкі кантакт з францускай і ангельскай місіямі. Прыехаўшая зь Кіева польская дэлегацыя пад кіраўніцтвам Зьдзяхоўскага аднак ня мела ўплыву на Доўбара, а Рачкевіч да яго таксама далучыўся.

### Нямецкая афэнзыва і БНР

Тымчасам нямецкая афэнзыва, пачатая 19 лютага 1918 г., выклікала нябывалую паніку сярод савецкіх войскаў. 25 лютага Немцы занялі Менск. Коратка перад гэтым, як ведама, (19 лютага 1918) вызваліўшыся з бальшавіцкага зьняволеньня, сябры Беларускай Вайсковай Рады Мамонька, Езавітаў і Захарка зарганізавалі беларускую самаабарону ў Менску і абсадзілі галоўныя адміністрацыйныя будынкі гораду і занялі сам горад. Аб гэтым старшыня саўнаркому Заходняй вобласьці Ляндэр успамінаў у наступных словах:

> «У горадзе пачаўся рух «Беларусаў», якія рыхтавалі выступленьне супраць нас. На вуліцах пачаліся дробныя сутычкі, чулася страляніна. Калі т. Пятроў, камандант савету, увечары выводзіў мяне з савету праз чорны ход, з параднага ўжо ўварваліся ўзброеныя банды, якія шукалі мяне й таварышоў».
>
> («Вперед», Менск 1933, № І).

Выданая была таксама І. Устаўная Грамата да Народаў Беларусі (21 лютага 1918) і створаны ўрад БНР у наступным складзе: Я. Варонка, старшыня Народнага Сакратарыяту і кіраўнік замежных справаў, І. Макрэяў — нутраныя справы, А. Смоліч — асьвета, Э. Бялевіч — судаўніцтва, др. І. Серада — народная гаспадарка, інж. В. Рэдзька — камунікацыя, П. Бадунова — сацыяльная апека, П. Злобін — справы расейскай мяншыні, Карач — пошта й тэлеграф, П. Крэчэўскі — дзяржаўная кантроля, Т. Грыб — земляробства, К. Езавітаў вайсковыя справы, Белкінд — фінансы, Гутман — справы жыдоўскай мяншыні і Л. Заяц — дзяржаўны сакратар. Беларуская Народная Рэспубліка сталася рэчаіснасьцю. У маланкавым тэмпе тварыўся І. Беларускі полк пяхоты пад камандаваньнем Радкевіча і народная міліцыя — Ф. Ждановіча.

Такім чынам Немцы, увайшоўшы ў Менск, знайшлі там не ўладу Доўбара-Мусьніцкага, як гэтага спадзяваліся згодна з ранейшай дагаворанасьцю, але беларускую дзяржаўную ўладу. Урад БНР, навязаўшы сувязь зь нямецкім камандаваньнем 22 лютага 1918 году, у першую чаргу прасіў ачысьціць Менск ад аддзелаў Доўбар-Мусьніцкага. Нямецкае камандаваньне зразумела сутнасьць беларускага самавызначэньня й прыхільна аднеслася да жаданьняў ураду БНР. Таму немалое было зьдзіўленьне дэлегацыі Доўбара, прыбыўшай таго-ж самага дня (22 лютага 1918) з Бабруйска пад кіраўн. палк. Тупальскага, сябры Начполя, дзеля падпісаньня прэлімінарнай умовы зь Немцамі аб акупацыі Беларусі, калі прышлося падпісаць згоду на эвакуацыю «польскіх» аддзелаў зь Менску да 27 лютага 1918 г. (Круткі шкіц до гісторыі І Корпусу Польскего, II, 42, зал. 89).

### Умова Доўбара-Мусьніцкага зь Немцамі

25 лютага 1918 у Бабруйск выязджала нямецкая дэлегацыя з маёрам фон Вульфанам і 200 жаўнераў эскорты і там 26 лютага падпісала з Доўбарам, Рачкевічам і Тупальскім умову аб супрацоўніцтве. Зьмест гэтай умовы перакрэсьліваў польскія пляны стварэньня «польскай рэспублікі» на беларускіх землях. Дзеля гістарычнай важнасьці гэтага дакуманту, падаю некаторыя яго часткі:

# Галасы нізоў

«Літаратура і Мастацтва» ў № 17 за 26 лютага сёлета ў артыкуле «Клопаты аб росквіце роднай культуры» падсумавала выказваньні многіх чытачоў аб часта парушаных апошнім часам на ейных бачынах пытаньнях ігнараваньня й сабатаваньня найэлемэнтарнейшых зьяваў беларускае культуры ды аб сыстэматычнай русыфікацыі школьніцтва й выцісканьня беларускае мовы із школьнага й грамадзкага жыцьця. Артыкул гэты газэта зьмясьціла ў рубрыцы «Агляд пісьмаў чытачоў».

На пачатку артыкулу гаворыцца: «На старонках нашай газэты неаднаразова выказваліся ўжо слушныя крытычныя заўвагі ў адрас Міністэрства асьветы БССР аб тым, што школы рэспублікі чакаюць добраякасных падручнікаў і мэтадычных дапаможнікаў па роднай мове і літаратуры, што дрэнна ўкамплектаваныя школьныя бібліятэкі, што не ўва ўсіх раёнах належным чынам выконваецца пастанова ЦК КПБ «Аб становішчы і мерах паляпшэньня выкладаньня беларускай і рускай моваў і літаратуры ў школах рэспублікі».

Пасьля гэтага ў артыкуле цытуецца прысланае ў рэдакцыю пісьмо міністра асьветы БССР Ільюшына, у якім ён, між іншым, піша:

«Вывучэньню роднай мовы ў школах і пэдагагічных навучальных установах удзяляецца вялікая ўвага. Для пачатковай і сярэдняй школы, сярэдніх і вышейшых пэдагагічных навучальных установаў Міністэрства асьветы БССР складзены праграмы, выдадзены падручнікі па мове і літаратуры, мэтадычныя дапаможнікі, зборнікі практыкаваньняў. Школьныя падручнікі па ўсіх іншых дысцыплінах таксама выдадзены ў беларускай мове ў дастатковай колькасьці. Школьныя бібліятэкі ў васноўным укамплектаваны праграмнымі творамі беларускай літаратуры.

Міністэрства асьветы правяло ў 1957/58 навучальным годзе шэраг мерапрыемстваў, накіраваных на паляпшэньне выкладаньня беларускай і рускай моваў, ліквідацыю недахопаў, якія маюцца ў гэтай справе. Ад настаўнікаў беларускіх школ срога патрабуецца весьці выкладаньне ўсіх прадметаў, за выключэньнем рускай мовы і літаратуры, на беларускай мове. Кіруючым работнікам народнай асьветы прапанавана ўлічваць пры камплектаваньні беларускіх школ настаўнікамі веданьне імі беларускай мовы.

На факультэтах пачатковай школы, адкрытых у 1957 г., выкладаньне амаль усіх дысцыплін вядзецца на беларускай мове. На іншых факультэтах пэдагагічных інстытутаў толькі асобныя дысцыпліны выкладаюцца на беларускай мове. Выкладчыкам, што вядуць выкладаньне на рускай мове, вызначаны час для падрыхтоўкі да выкладаньня на беларускай мове.

Дакумэнтацыя ў школах і пэдагагічных навучальных установах вядзецца як правіла на беларускай мове».

Рэдакцыя «Лтаратуры і Мастацтва» ўсё-ж была змушаная зрабіць наступнае асьветчаньне:

«Міністэрства асьветы БССР, бяспрэчна, многае ўжо зрабіла і робіць, каб выправіць некаторыя ненармальныя зьявы ў школьнай справе, але адказ т. Ільюшына не паказвае ў поўнай меры запраўднага становішча з выкладаньнем беларускай мовы і літаратуры ў школах і пэдагагічных ВНУ рэспублікі».

У довад таго, што «адказ т. Ільюшына не паказвае ў поўнай меры запраўднага становішча з выкладаньнем беларускай мовы і літаратуры ў школах і пэдагагічных ВНУ рэспублікі», Рэдакцыя прыводзіць цэлы рад выказваньняў паасобных настаўнікаў і наагул чытачоў, якія малююць узапраўды жахлівы абраз.

Гэтак дырэктар Капцёўскай сярэдняй школы І. Здановіч «адзначае, што міністэрства асьветы БССР кажны год скарачае колькасьць гадзін на вывучэньне роднай мовы». Гэты факт пацьвярджаюць і настаўніцы Н. Эпштэйн зь Менску, А. Міраненка з Холмецкай сярэдняй школы Рэчыцкага раёну й інш.

Далей чытаем: «Чытачы пішуць таксама пра дрэннае ўкамплектаваньне школьных бібліятэк праграмнымі творамі ўвогуле і асабліва па беларускай літаратуры. Настаўнік У. Васілец (Пагоская сярэдняя школа Старобінскага раёну) піша, што ў школьнай бібліятэцы з праграмных твораў па беларускай літаратуры ёсьць толькі адна кніга К. Чорнага і тры эгзэмпляры трылёгіі Я. Коласа «На ростанях» у перакладзе на расейскую мову.» Газэта сьцьвярджае, што «такое становішча ня толькі ў Пагоскай школе, але і ў многіх іншых школьных бібліятэках».

Газэта жаліцца: Беларускія «навучальныя ўстановы рыхтуюць для рэспублікі кадры работнікаў культуры, нажаль, сваім выхаванцам яны яшчэ недастаткова прывіваюць любоў да роднай культуры, мала даюць ведаў у галіне мовы, літаратуры і мастацтва беларускага народу, яго мінулага і сучаснага».

«Многія чытачы робяць заўвагі аб рэпэртуары гурткоў мастацкай самадзейнасьці, дзе вельмі мала твораў беларускіх пісьменьнікаў. І гэта ў той час, калі нашыя гледачы праяўляюць жывую цікавасьць да твораў на беларускай мове», — абураецца газэта.

Вышэй успомненая настаўніца Міраненка на гэтую тэму піша: **«Наш народ любіць родную мову. Мне часта прыходзіцца выступаць перад насельніцтвам із школьнай самадзейнасьцю, і гледачы заўсёды просяць, каб мы выконвалі нумары на беларускай мове».**

Свае разважаньні газэта канчае наступным падагульненьнем: **«Чытачы праяўляюць клопаты аб далейшым росквіце беларускай нацыянальнай культуры, робяць слушныя заўвагі, выказваюць свае пажаданьні».**

Надрукаваны ў «Літаратуры і Мастацтве» артыкул «Клопаты аб росквіце роднай культуры», як і цэлы рад выказваньняў чытачоў, прыведзеных у гэтым артыкуле, а таксама надрукаваных у папярэдніх нумарох газэты, паказваюць, што справай роднае культуры й мовы, ейнай абаронай перад шалёнай русыфікацыяй жыва займаюцца інтэлігенцкія нізы ў БССР — галоўна настаўнікі й студэнты. Затое беларускія культурныя вярхі — розныя ляўрэаты ды «заслужаныя» або «народныя» паэты, пісьменьнікі, артыстыя й іншыя дзеячы культуры аж захлынаюцца ад крыклівых пахвалаў партыі і ўраду за іхныя «вялізарныя клопаты над разьвіцьцём беларускай культуры».

Гэтак, калі адны прадалі сваё нацыянальнае сумленьне й гонар за бліскучыя ордэны, й вялікія ўзнагароды ды шумныя тытулы, іншыя шчыра клапоцяцца за лёс роднае культуры, за нацыянальнае існаваньне беларускага народу. Гэтых апошніх бальшыня, яны беспасярэдна зьвязаныя з масамі і, як ужо пісалася ў «Бацькаўшчыне», іхны голас ёсьць голасам масаў. За імі астаецца будучыня!

**Ст. Кр-на**

# Гэтак званыя савецкія выбары

### I. АПОШНІ АКТ КАМЭДЫІ.

«За чатыры дні мільёны працоўных нашай краіны прыдуць на выбарчыя пункты, каб выканаць свой грамадзкі абавязак . . .»

Зьвернем увагу на гэты сказ з перадавіцы «Праўды». У краінах праўдзівай дэмакратыі падчас выбараў грамадзяне выкарыстоўваюць сваё права, у Савецкім-жа Саюзе — краіне гэтак званай «перадавой» дэмакратыі — «выконваюць абавязак». Вось тут газэта «Праўда» праз нейкую памылку ці недагляд прыпадкова сказала праўду. 16-га сакавіка грамадзяне Савецкага Саюзу ня выбіралі, бо ня мелі выбару, а толькі галасавалі за накінутых ім партыяй людзей. «Выконвалі абавязак», бо галасаваць мусілі, хаця ня мелі выбару. І вось у нядзелю мільёны працоўных пад гукі аркестраў — а дзе няма аркестраў — пад рыпеньне гармонікаў, з чырвонымі палотнішчамі, калёнамі машыравалі на выбарчыя пункты выконваць абавязак . . . Гэта быў апошні акт камэдыі. Гэтым скончыўся гэтак званы «ўдзел» савецкага грамадзтва ў «кіраваньні краінай». Вызначаныя й праверaныя партыяй людзі будуць раз або два разы ў год езьдзіць у Маскву, «бурнымі воплескамі» «аднадушна» прымаць усе пастановы ЦК, і гэта будзе называцца, «парлямантам».

Мы сказалі, што ў нядзелю адбыўся апошні акт камэдыі. Выбарчая камэдыя ўжо цягнецца некалькі месяцаў. Як ведаем з савецкай прапаганды, ува ўсім Савецкім Саюзе працавала двухмільённая армія агітатараў, сьпісаны тысячы тонаў паперы, страчана нязьлічоная колькасьць працадзён. Інакш кажучы, выбарчая акцыя каштавала мільёны рублёў.

Паўстае пытаньне: нашто была гэтая ўся мітусьня, калі й загадзя перад выбарамі ведама ўсё: колькі працэнтаў выбаршчыкаў будзе галасаваць і хто будзе вызначаны дэпутатам Вярхоўнага Савету, а хто — Савету Нацыянальнасьцяў?

Адказ на гэтае пытаньне можа быць адзін: у гэтым шаленстве ёсьць мэтад. Мэтад выпрабаваны сарагадовай бальшавіцкай уладай: абдурвай, ілжы і ўладай. Старажытныя Рымляне прыдумалі лёзунг divide et impera, бальшавікі да гэтага, не апавяшчаючы, дачапілі «абдурвай і ўладай».

У гэтай перадвыбарчай мітусьні маскоўскія верхаводы думаюць ашукаць сваё грамадзтва і ўвесь сьвет ілюзіямі нейкай «дэмакратычнасьці». Аднак у другой палавіне дваццатага стагодзьдзя людзі ўжо дастаткова разьбіраюцца ў значэньні слова «дэмакратыя» і абдурыць іх ня ўдасца.

Таму кажны глядзіць на бальшавіцкую перадвыбарчую мітусьню, як на вельмі дрэнную камэдыю, апошні акт якой адбыўся 16-га сакавіка.

### II. ЭПІЛЁГ КАМЭДЫІ

З выбарамі ў Вярхоўны Савет СССР усё сталася так, як мы загадзя прадугледжвалі.

16-га сакавіка галасавала 99,97 працэнтаў выбаршчыкаў, і за г. зв. «блёк камуністых і беспартыйных» было пададзена 99,97 працэнтаў галасоў.

Месяц таму, прадбачваючы вынікі выбараў, можна было памыліцца на 1—2 сотых працэнта, але ніякім чынам не магло быць сумлеваў, хто будзе выбраны. Гэтак званая «мудрая партыя» ўсё прадбачыла, усё вырашыла, усё зарганізавала, а таму і гэтак званыя «выба-

(Заканчэньне на 11-ай бачыне)

# Дзьве гутаркі з праф. Ант. Адамовічам

(Заканчэньне з 9-ай бачыны)

Рэспублікі меўся зацьвердзіць Устаноўчы Сойм Беларусі, склiканы на дэмакратычных асновах.

**Пытаньне:** Якія галоўныя мамэнты вызначыла Другая Ўстаўная Грамата?

**Адказ:** Перш за ўсё Выканаўчы Камітэт Першага Ўсебеларускага Кангрэсу пастанавіў: «Беларусь у межах расьсяленьня і лічбовай перавагі беларускага народу аб'вяшчаецца Народнай Рэспублікай».

**Пытаньне:** Які-ж нутраны лад меўся быць у гэтай дзяржаве?

**Адказ:** Вось якраз гэты лад і вызначыўся ў наступных сямёх пунктах Другой Устаўной Граматы.

У межах Беларускай Народнай Рэспублікі абвяшчалася свабода слова, друку, сходаў, забастовак, аб'еднаньняў; бязумоўная свабода сумленьня, недатыкальнасьць асобы і памешканьня — якраз усё тое, чаго не дала на практыцы **савецкая канстытуцыя.**

**Пытаньне:** Ці гаварылася ў Другой Устаўной Грамаце пра іншыя нацыянальнасьці, якія жылі на беларускіх землях?

**Адказ:** Гаварылася. Гэтаму пытаньню была таксама адведзеная належная ўвага. Вось як было разьвязанае нацыянальнае пытаньне ў Беларусі ў 1918 годзе: «У межах Беларускай Народнай Рэспублікі, (запісана ў 6-ым парагрaфе Другой Устаўной Граматы) усе народы маюць права на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію; абвяшчаецца роўнае права ўсіх моваў народаў Беларусі».

Між іншага, апошняе палажэньне што да моваў было перанятае і Беларускай **Савецкай** Рэспублікай, хоць і не адразу. У 20-х гадох у БССР былі чатыры афіцыяльныя мовы: беларуская, жыдоўская, расейская і польская.

**Пытаньне:** Яшчэ адно пытаньне: ці Другая Ўстаўная Грамата гаварыла штонебудзь пра работнікаў?

**Адказ:** Бязумоўна. Восьмы параграф Граматы гучыць гэтак: «У межах Беларускай Народнай Рэспублікі ўстанаўляецца найбольшы васьмігадзінны рабочы дзень».

**Пытаньне:** А сялянскае пытаньне?

**Адказ:** Таксама было разьвязанае. У 7-ым параграфе Граматы гаворыцца: «Зямля перадаецца бяз выкупу тым, што самі на ёй працуюць».

**Пытаньне:** Скажэце, калі ласка, як паставіліся бальшавікі да гэтага выяўленьня волі беларускага народу?

**Адказ:** Выключна варожа. З усяго, што здарылася пасьля, выразна відаць, што да такое пастаноўкі нацыянальнага пытаньня на Беларусі яны зусім ня былі гатовыя. Яны ня мелі ніякіх намераў паважна браць на ўвагу інтарэсы беларускага народу. Аб гэтым сьветчаць факты.

Ведама, прыкладам, (і гэта не хавае і савецкая гісторыя, што гэта **бальшавікі** разагналі Першы Ўсебеларускі Кангрэс у канцы 1917-га году, які аднак здолеў абвесьціць Беларусь Рэспублікай.

Далей. У лютым 1918-га году Выканаўчы Камітэт Усебеларускага Кангрэсу абвесьціў сябе часовай уладай на Беларусі. Бальшавікі-ж у гэтым часе здабыліся толькі на гэтак званы «Беларускі нацыянальны камісарыят». Заданьне гэтага «Камісарыяту» зводзілася да «задаваленьня праз органы Савецкай улады культурна-асьветных патрэбаў беларускае нацыянальнасьці». Пра самавызначэньне-ж беларускага народу з царскае імпэрыі, ягоныя нацыянальныя правы, пра патрэбы беларускае дзяржавы тады яшчэ бальшавікі не казалі ані слова.

Урэшце незалежнасьць Беларускае Савецкае Рэспублікі, як найвышэйшая форма задавальненьня вымогаў беларускай нацыі, была абвешчаная бальшавікамі куды пазьней — у Смаленску 1-га студзеня 1919 году.

Пэўна-ж, яны спачатку мусілі лічыцца з жаданьнямі нашага народу. Аднак, пачуўшыся на сілах, перахапілі ідэю незалежнасьці ды, прыкрываючыся незалежніцкай тэрміналёгіяй, здушылі права нашага народу жыць свабодна ў згодзе з **праўдзівымі** дэмакратычнымі прынцыпамі, якія абвесьціла Другая Ўстаўная Грамата 9-га сакавіка 1918-га году.

---

1. Корпус польскі, — гаворыцца ў дакуманце, — ёсьць войскам нэўтральным, якому дзеля пастою і выжыўленьня, а таксама і ў мэтах абароны ад нападаў з боку бальшавікоў вызначана прастора між Дняпром ад Магілёва аж да вусьця Беразіны, і чыгункай Слуцак—Асіповічы—Лапічы—Гарадзінец. Спосаб адміністрацыі на гэтай прасторы будзе ў хуткім часе ўстаноўлены. Да гэтага часу адміністрацыя астаецца ў руках польскага Корпусу.
2. Польскі Корпус уступае ў ваеннае змаганьне толькі ў выпадку, калі на вызначанай прасторы будзе заатакованы. Нямецкаму камандаваньню падлягае тады, калі нямецкія войскі прымуць удзел у вадпоры нападу . . .

Пераход нямецкіх войскаў праз названую прастору ёсьць дазволены ў кажнай хвіліне; Корпус польскі забавязаны, у меру магчымасьці, толькі ў межах сваёй прасторы — выжыўляць ваюючыя нямецкія войскі, за што павінна наступіць кампансата ў натуральях або у форме пашырэньня акупацыйнай прасторы . . .

3. Польскія войскі павінны пакінуць Менск 27. II. 1918 да 6-й гадзіны вечара. Да гэтай хвіліны ўсе склады і запасы павінны быць перададзеныя Немцам. Собскасьць польскага Корпусу будзе ўстаноўлена мяшанай камісіяй, 2-х прадстаўнікоў з кажнага боку пад нямецкім кіраўніцтвам.
4. Польскі Корпус мае забясьпечыць чыгунку, якую Немцы будуць ужываць ад Талькі да Жлобіна, а таксама чыгунку на Слуцак ды чыгунку цераз Лапічы на Гарадзінец, уключна із усімі складамі; нямецкія войскі забясьпечаць чыгунку ад Талькі да Менску. Прастора на захад ці на поўнач ад чыгункі Слуцак—Лапічы—Гарадзенец ня можа быць выкарыстана для выжыўленьня Корпусам польскім, а гэты апошні павінен забясьпечыць магазыны, склады і г. д., што знаходзяцца на ўсход і поўнач ад чыгункі . . .
5. Польскі Корпус займае адпаведнымі сіламі чыгуначны вузел Жлобін і пры дапамозе збройнай сілы не дазволіць на вываз запасаў ці то чыгункай, ці то на вазох на поўдзень, усход і поўнач; высылае рухомы абоз з запасамі ў Менск. Гэта сама адносіцца да Магілёва, які мае быць хутка заняты. Калі гэта наступіць, то польскае войска неадкладна павінна ў паразумленьні зь Нямецкай Галоўнай Кватэрай у Менску заступіць і звольніць нямецкае войска.
6. Усе склады, запасы ў Жлобіне й аколіцы, а таксама на чыгунцы да Воршы ёсьць нямецкай уласнасьцяй навет у выпадку здабыцьця іх або рэгістрацыі польскім войскам. За гэта Немцы часткавым адступленьнем запасаў дадуць адшкадаваньне польскаму Корпусу. З свайго боку Корпус за гэта будзе пачувацца да абавязку пераняцьця складаў і выстаўленьня старожы дзеля забясьпечаньня іх ад зьнішчэньня й рабаваньня бальшавікамі і насельніцтвам. Зарэгістраваны зьмест складаў павінен быць якнайхутчэй перасланы ў Галоўную Кватэру ў Менску . . .
7. Паўночную граніцу прасторы, названай у п. 1 утварае лінія Магілёў—Малыя Бялевічы—Маневічы—Якрычы—Гарадзенец (канцавы пункт чыгункі з Лапічаў); паўдзённую граніцу ўтварае лінія ад вусьця Бярэзіны ў Дняпро—Шацілка—Любань (над Арэсай) —Саковічы—Старолін—Вісна—Семяжэва. Граніцу паўночную і ўсходнюю творыць: шаса Семяжава—Слуцак (уключна), пасьля чыгунка Слуцак—Асіпавічы—Лапічы—Гарадзенец.
8. Пад назовам польскага Корпусу трэба разумець І-шы Корпус і ўсе тыя корпусы, якія стануць пад каманду Начальніка І-га польскага Корпусу.

Як бачым з тэксту гэтай умовы галоўнай мэтай нямецкага камандаваньня ў дачыненьні да корпусу Доўбар-Мусьніцкага было жаданьне зьлюзаваньня нямецкіх сілаў, дастава аправізацыйных запасаў і іх зьбіраньне з насельніцтва ды ўрэшце забясьпячэньне перад нападамі бальшавікоў.

### Надзеі Палякаў

Хоць ясна нічога няма сказанага ўва ўмове адносна нутранага адміністраваньня ў межах занятай тэрыторыі (гэта справа пакінена на пазьнейшае ўпарадкаваньне), то аднак давалася аўтанамічнае становішча для Корпусу на прасторы амаль роўнай сяньняшняй Бабруйскай акрузе з Быхаўскім і Жлобінскім паветамі суседніх акругаў. Апрача гэтага, у ўмове ідзе гутарка, што Корпус можа атрымаць, як кампэнсату за апрaвізацыйную службу Немцам, дадатковую тэрыторыю, а 8 п. прадбачае навет павялічэньне «польскіх» збройных сілаў у будучыні. Гэтыя ўсе сугэстыі стварaлі ў штабе Доўбара надзею, што ўдасца ў будучыні пераняць усю Беларусь і Украіну і далучыць да Польшчы. Сьветчыць аб гэтым ліст др. Залускі (эндэка), высланы 27 лютага 1918 г. (назаўтра пасьля падпісаньня ўмовы) ў Варшаву, у якім гаворыцца, што галоўнай мэтай падпісаньня ўмовы зь Немцамі ёсьць пэрспэктыва далучэньня беларускіх і ўкраінскіх земляў у будучую польскую дзяржаву (Гросфэльд, 95). Сам Доўбар (Мое вспомненя, 243) апавядае, што ў часе перамоваў з маёрам Вульфанам у Бабруйску прапанаваў, каб кайзэр абвесьціў «злучэньне ўсіх польскіх правінцыяў і стаўся польскім каралём, будучы адначасна каралём Прускім і нямецкім імпэратарам».

Ведама, гэткая прапанова мела за сваё заданьне здабыць большую прыхільнасьць нямецкага камандаваньня. Галоўныя намеры штабу Доўбара й Начполю выявіліся ў вадумыснай дэлегацыі да Рады Рэгенцыйнай, высланай у канцы лютага 1918 г. у складзе верхаводаў польскай палітыкі на Беларусі: Рачкевіча, Тупальскага, Малевіча і Шабэкі. Дэлегацыя гэтая, прыбыўшы ў Варшаву на пачатку сакавіка 1918 г., прызнала Раду Рэгенцыйную за найвышэйшую сваю ўладу, ставячы ў залежнасьць ад яе ўсе польскія арганізацыі і войска на Беларусі і Украіне («Эхо польске» 4. IV. 1918). Штаб Доўбара думаў, што гэтым спосабам узалежніць Беларусь і Украіну, а перш за ўсё ўжо акупаваныя беларускія землі, ад цэнтральнай і легальнай польскай улады.

Рада Рэгенцыйная, «пераняўшы» «ўладу» над «польскім» войскам на Беларусі й Украіне (4 сакавіка 1918), 6 сакавіка выставіла дакумант, зацьвярджаючы ўмову Доўбара зь Немцамі з 23 лютага, а таксама вызначаючы яго начальнікам І-га Корпусу (Багінскі, 305).

### Супрацьдзеяньне БНР

Маючы быццам апору ў Радзе Рэгенцыйнай, штаб Мусьніцкага стаў у прысьпешаным тэмпе тварыць на акупаваных беларускіх землях «Даўборыю» — польскую рэспубліку: арганізаваць польскія школы, польскую адміністрацыю ды ліквідаваць зямельны парадак, паўсталы ў часе рэвалюцыйных пераменаў. Усё гэта выклікала абурэньне ня толькі беларускага насельніцтва, але зьнеахвочвала і самых жаўнераў Корпусу. Не малую ролю ў гэтым адыграла дзейнасьць БНР, якая цераз сваю прэсу, улёткі, устаўныя граматы ды мясцовую адміністрацыю заклікала насельніцтва гуртавацца вакол сваёй улады, Беларускай Народнай Рэспублікі, якая гарантуе (II устаўная грамата) поўную дэмакратычную свабоду ўсім грамадзя-

# *Памажыце зрабіць карысную справу!*

### ДА СПРАВЫ ВЫДАНЬНЯ ТВОРАЎ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

**Выдавецтва «Бацькаўшчына», апрача тыднёвіка пад тым-жа назовам і месячнага ілюстраванага часапісу для дзяцей «Каласкі», пачынаючы ад 1952 году выдае й кнігі лепшых твораў беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў. За гэты час выдана 13 кніжак твораў беларускае літаратуры, а сярод іх найвялікшых нашых паэтаў Янкі Купалы й Якуба Коласа.**

**У мінулым годзе ў сувязі з 40-годзьдзем сьмерці Максіма Багдановіча мы пачалі на бачынах «Бацькаўшчыны» перадрукоўваць паэтычныя творы гэтага паэты, каб іх выдаць пазьней асобнай кніжкай.**

**Варта адцеміць, што творчасьць Багдановіча найменш ведамая й найменш даступная беларускаму й заходняму чытачу, бо на Захадзе ягоныя творы зусім ня перадрукоўваліся. А між тым, роля й значаньне Багдановіча ў нашай літаратуры ня меншае за ролю й значаньне Купалы й Коласа. У той час, калі Купала й Колас галоўным чынам парушалі ідэйныя праблемы нашага нацыянальнага адраджэньня, Багдановіч, як нязвычайна ўталентаваны майстра беларускага паэтычнага слова й паэта высокай літаратурнай культуры, стварыў артыстычныя асновы нашае адраджэнскае літаратуры й падняў яе на эўрапэйскую вышыню. Такім чынам Багдановіч, як адзін із вялікай тройкі беларускай адраджэнскай літаратуры, удала дапаўняў двух апошніх — Купалу й Коласа.**

**Нажаль, цяпер матар'яльнае палажэньне «Бацькаўшчыны» на столькі пагоршылася ў сувязі з ростам друкарскіх і іншых коштаў, што Выдавецтва дасюлешнім спосабам ня зможа выдаць гэтае цэннае кнігі й ейны набор, які застаецца пасьля надрукаваньня ў «Бацькаўшчыне» твораў Багдановіча, прыдзецца раськінуць. Гэта было-б недаравальнай шкодай, бо гатовы набор — гэта ўжо палавіна коштаў усяго выданьня.**

**Каб усё-ж такі ажыцьцявіць гэтае патрэбнае й цэннае выданьне, Выдавецтва ня мае іншага выхаду, як зьвярнуцца да шырокіх колаў нашага эміграцыйнага грамадзтва з гарачым заклікам і шчырай просьбай памагчы нам у гэтай справе. Мы ня просім ані беззваротных ахвяраў, ані ніякіх формаў дапамогі, а просім толькі зусім простай, натуральнай і бясстратнай рэчы: каб ужо цяпер кажны той, для каго беларуская нацыянальная справа ня ёсьць абыякавай, купіў наперад прынамся адзін эгзэмпляр запляванаванага выданьня.**

**Кніга мае быць прыгожа афармленая, у каляровай вокладцы, на добрай паперы й з партрэтам аўтара. Яна выдаецца пад рэдактарствам ведамых беларускіх літаратураведаў праф. Антона Адамовіча й др. Ст. Станкевіча; яны-ж прыгатавалі і ўводныя артыкулы для кнігі аб жыцьці й творчасьці Максіма Багдановіча. Кніга будзе абыймаць каля 200 бачынаў друку.**

**Кошты выданьня, апрача друкарскага набору, будуць выносіць каля 1 000 амэр. даляраў. Цана аднаго эгзэмпляра будзе выносіць 3 амэр. даляры, а ў іншых краінах іхную раўнавартасьць. Для краінаў зь ніжэйшым узроўнем жыцьця цана будзе зьніжаная ў тэй самай працэнтнай прапорцыі, як і для іншых кніжак Выдавецтва «Бацькаўшчына». Дык каб здабыць патрэбныя 1 000 даляраў на выданьне гэтае кнігі, дастаткова калі будзе закуплена наперад прыблізна 350 яе эгзэмпляраў.**

**Кнігу плянуецца выпусьціць у канцы чэрвеня 1958 году. Але да друкаваньня кнігі трэба прыступіць найпазьней у пачатку травеня. Таму тэрмін закупу кнігі згары ўстанаўліваецца да 15 красавіка.**

**Мы зьвяртаемся з гарачай просьбай да ўсіх беларускіх грамадзкіх арганізацыяў і паасобных грамадзян безадкладна прыступіць да збору грошай на набыцьцё кнігі й перасылаць іх на адрыс Адміністрацыі «Бацькаўшчыны» ў Мюнхэне, або на адрыс нашых Прадстаўніцтваў у розных краінах.**

**Пры гэтым Выдавецтва «Бацькаўшчына» гарантуе, што ў выпадку, калі-б аказалася недастатковая колькасьць пакупнікоў кнігі й яна дзеля гэтага ня выйшла, дык заплачаныя за яе грошы будуць зьвернутыя назад собсьнікам. Аднак, нам ня хочацца верыць, каб наша эміграцыйная грамадзкасьць да гэтага дапусьціла.**

**Выдавецтва «Бацькаўшчына»**

### САКАВІКОВЫЯ ПРЫВІТАНЬНІ

**З нагоды 40-х угодкаў абвешчаньня Беларусі вольнай і незалежнай дзяржавай, Згуртаваньне Беларусаў у Канадзе горача вітае ўсе беларускія арганізацыі, установы ды наагул усю беларускую грамадзкасьць.**

**Мы моцна верым у канчатковую перамогу ідэялаў Акту 25 Сакавіка, і недалёка той дзень, калі наша Бацькаўшчына-Беларусь стане назаўсёды вольнай і незалежнай!**

**Жыве Беларуская Народная Рэспубліка!**

**Галоўная Ўрава ЗБК**

*

**Беларуская Сэкцыя Радыя «Вызваленьне» шчыра вітае ўсё беларускае грамадзтва на эміграцыі з 40-ымі ўгодкамі Абвешчаньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі і жадае яму найвялікшых посьпехаў у справе якнайхутчэйшага зьдзейсьненьня нашых вялікіх нацыянальных Ідэялаў — Свабоды й Незалежнасьці Бацькаўшчыны-Беларусі!**

**ХОЧАШ ЗРАБІЦЬ СВАЙМУ БЛІЗКАМУ ПРЫЕМНАСЬЦЬ І АДНАЧАСНА КАРЫСЬЦЬ ДЛЯ БЕЛАРУСКАЙ СПРАВЫ, ПАДАРУЙ ЯМУ КАМПЛЕКТ КНІЖАК ВЫДАВЕЦТВА «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»**

### 10 год таму «Бацькаўшчына» пісала:

... Дык застаецца адно дайсьці да няхібнага перакана್ьня, што так шырака разьлітая ў масе незалежніцтва вымагае толькі, з аднаго боку, спрыяльнае вонкавае сытуацыі, а з другога — паглыбленьня і ўтрываленьня, глыбейшага й мацнейшага закараненьня ў галовах і сэрцах, у думцы й волі людзей, каб кіраваць іх напорна й нязводна шляхом змаганьня за нацыянальнае вызваленьне — да поўнае перамогі, да Другога Прыйсьця Сакавіка.

... Поўная нацыянальная незалежнасьць — наш сьвяты ідэял сяньняшняга дня — будзе, станецца жывой рэальнасьцяй Вялікага Заўтра. Зарукаю гэтаму — нашая тысячагодная гісторыя, сыгналамі — ейныя апошнія трыццаць год, гарантам — Найвышэйшая Справядлівасьць. Нашая-ж сьведамасьць і пачуцьцё, воля і дзея — хай заўсёды будуць з намі, хай бязупынна й няўхільна кіруюць нас у шчасьлівую прыстань Вялікае Будучыні Вольнае Бацькаўшчыны, — Бацькаўшчыны Незалежнай.

№ 9 (12), 25 сакавіка 1948.

# Зь беларускага жыцьця

### УРАЧЫСТАЕ ПАСЕДЖАНЬНЕ РАДЫ БНР У НЬЮ ЁРКУ

З нагоды прыезду ў ЗША Прэзыдэнта Рады БНР інж. М. Абрамчыка, ды з нагоды 40-ой гадавіны абвешчаньня Другой Устаўной Граматы — асноваў Канстытуцыі й Дэкляарацыі Праваў Чалавека Беларускай Народнай Рэспублікі — у Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне адбылося 9-га сакавіка сёлета ўрачыстае паседжаньне сяброў Рады БНР.

Старшыня амэрыканскага сэктару Рады БНР сп. К. Мярляк прывітаў Прэзыдэнта БНР, перадаючы пасьля гэтага яму слова для дакладу аб міжнародным палажэньні ды сяньняшнім стане беларускае вызвольнае справы на бацькаўшчыне і ў заходнім сьвеце.

Пасьля гэтага праф. Ант. Адамовіч расказаў пра разьвіцьцё падзеяў на Беларусі, якія прывялі да абвешчаньня асновы беларускае Канстытуцыі, ды прачытаў ейны тэкст, даючы падрабязныя й цікавыя тлумачэньні.

Я. З.

### У БЕЛАРУСКІМ ІНСТЫТУЦЕ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА

У сыботу 22 лютага сёлета ў Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва ген. Ф. Кушэль прачытаў рэфэрат на тэму «Войны Жыгімонта III Вазы з Маскоўшчынай ды адваёва Смаленшчыны й Севершчыны». У першай частцы свайго рэфэрату дакладчык прадставіў палажэньне, якое вытварылася ў Маскоўшчыне, калі скончылася дынастыя Рурыкавічаў на маскоўскім пасадзе. У Маскве панавалі тады інтрыгі й змаганьне за ўладу. Цар Васіль Шуйскі зрабіў быў вайсковы хаўрус із швэдзкім каралём Каралём IX, які меўся памагчы вярнуць парадак у Маскоўшчыне. Гэты вайсковы саюз і спрычыніўся да ваеннае інтэрвэнцыі Жыгімонта III у Маскоўшчыне.

У 1609 г. Жыгімонт абступіў із сваёй арміяй, што ў вялікай бальшыні складалася зь Беларусаў, Смаленск і пасьля даўгое аблогі здабыў яго, улучаючы йзноў у Вялікае Княства Літоўскае.

Другая частка дакладу — паходы Жыгімонтавага сына Ўладыслава на Маскоўшчыну — адкладзеная была на іншую навуковую зборку БІНіМ-у.

### У БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКІМ АКАДЭМІЧНЫМ ТАВАРЫСТВЕ

У Беларуска-Амэрыканскім Акадэмічным Таварыстве ў нядзелю 2 сакавіка інж. Ю. Станкевіч прачытаў рэфэрат на тэму «Выкарыстаньне энэргіі атому для мірных мэтаў». Дакладчык расказаў слухачом пра крыніцы й спосабы здабываньня атомнае энэргіі ды вытлумачыў працэс ператварэньня яе ў электрычную.

Рэфэрат інж. Ю. Станкевіча — вельмі добры прыклад іншым абсальвэнтам амэрыканскіх вышэйшых школаў ды наагул усім сябром БААТ дзяліцца сваймі ведамі й спасьцярогамі.

### НАРОДНЫ ВЕЧАР У НЬЮ-ЁРКУ

2-га сакавіка сёлета шмат хто зь беларускай калёніі бачыў у Стуйвэсан Касыно нябывалае зьявішча. Беларускі народны скок «Мікіту» скакалі Індыяне — зь пёрамі і ў поўных баёвых строях, Ірляндцы — мужчыны як і жанчыны ў спадніцах, Немцы, Украінцы — у народных вопратках, разам з прысутнымі Амэрыканцамі.

Гэта быў ужо сёмы чарговы Народны вечар, наладжаны Folk Festival Council (F. F. C.). У праграму ўваходзілі скокі й сьпевы Ірляндцаў, амэрыканскіх Індыянаў і Беларусаў.

У беларускай частцы праграмы танцавальны гурток аддзелу ЗБМА выканаў «Лявоніху» й «Крыжачок», сп-ня К. Ярашэвіч прыгожа народную песьню «Васількі», пасьля чаго, зноў пад акардыён Л. Рудзінскага — народны скок «Мікіта».



**Некаторыя з удзельнікаў Народнага вечару: Э. МакМанус (Ірляндка), А. Вінчарт (амэр. Індыянін), Н. Каваль (Беларуска).**

Паводля традыцыі гэтых вечароў, прысутныя глядачы разам з удзельнікамі вучыліся й скакалі «Мікіту».

Пры гэтым была таксама наладжаная выстаўка беларускай вышыўкі й ручных работаў.

Асаблівыя стараньні ў арганізацыю вечару ўклалі сябры аддзелу ЗБМА ў Нью-Ёрку: А. Несьцяровіч, — дэлегат ў F. F. C., А. Орса — кіраўнічка танцавальнага гуртка, М. Казьлякоўскі — кіраўнік аддзелу, В. Паланевіч і В. Станкевіч.

Цікава адцеміць, што гадавы сход F. F. C., які адбыўся назаўтра, быў адкрыты воплескамі й падзякай за найлепшы да гэтага часу Народны вечар.

### СХОД АДДЗЕЛУ ЗБК Ў ТАРОНТА (КАНАДА)

2-га сакавіка сёлета адбыўся агульны сход Аддзелу Згуртаваньня Беларусаў Канады ў Таронта. Была выбраная новая ўправа Аддзелу ў складзе: Н. С-ч — старшыня, М. К-ль і Б-ч — сябры ўправы. Управа мае распрацаваць праграму працы Аддзелу, каб такім чынам аблягчыць працу галоўнай управы ЗБК, якая дагэтуль траціла шмат часу на мясцовыя справы беларускай калёніі ў Таронта.

### ЗРАБІ ТЭСТАМАНТ

Калі ты, прыкладам, жывеш у Канадзе ці Задзіночаных Штатах Амэрыкі, зьяўляешся адзінокім, маеш ашчаднасьці ці маёмасьць і ня маеш тэстаманту, дык зрабі яго неадкладна. Гэта не таму, што заўтра памрэш. Жыві як найдаўжэй і дай Бог, каб яшчэ вярнуўся на Бацькаўшчыну. Але, як кажуць, «сьмерць ходзіць па людзях», дык трэба забясьпечыцца на ўсякае ліха.

Чаму тэстамант? А вось возьмем дзеля прыкладу сьв. пам. сябру Шульгу, які на днях памёр і ня меў тэстаманту. І што-ж сталася? Хоць маці сядзіць, пэўне-ж, у бядзе дома, а мясцовыя ўлады наложылі на ўсё замок. Дарма, што беларускія арганізацыі патрабуюць грошаў, дарма, што трэба купляць цэрквы, дарма што радня на тым баку ў галечы — маемасьць, перадусім грашовыя ашчаднасьці пойдуць у кішэню тых, якія гэтага не патрабуюць. А яна-ж і ня была такая маленькая.

Дык ці ня варта тады такое ліха прадбачваць і наперад забясьпечыцца? Гэтая перасьцярога датычацца ўсіх нашых суродзічаў ува ўсіх краінах.

М. К-р

### ДАКЛАД АБ ДЗЕЯЧОХ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ Ў БЕЛАРУСІ

У Беларускім Доме ў Таронта 9-га сакавіка сёлета адбыўся даклад а. Міхаіла аб выдатных дзеячох праваслаўнае царквы ў Беларусі. Дакладчык гаварыў аб сьв. Афрасіньні Полацкай, сьв. Кірылу Тураўскім і Кліманту Смаляцічу. Гэты цікавы даклад быў выслуханы зь вялікай увагай шматлікімі прысутнымі.

М. К-р

### БЕЛАРУСКІ ЗБОРНІК

**Інстытуту для Вывучэньня СССР, Мюнхэн 1957, Кніга 8, бач. 181**

Выйшаў чарговы 8-нумар «Беларускага Зборніка». У гэтай кнізе зьмешчаны наступныя артыкулы: Ант. Адамовіч: Беларускае літаратурна-мастацкае згуртаваньне «УЗВЫШША»; П. Урбан: Зварот да ранейшых догмаў у савецкай гістарычнай навуцы; Мікола Волаціч: Сутнасьць ленінскай нацыянальнай палітыкі на прыкладзе тварэньня СССР; С. Кабыш: Саўгасы ў СССР на працягу 40 год; Усевалад Галубнічы: Некаторыя вынікі ацэны дэмаграфічных статыстык БССР; С. Кабыш: Новая пастанова ў дачыненьні калгасаў і МТС. Апрача гэтага зьмешчаны таксама дзьве рэцэнзіі: на «Камуніст Беларусі» (№ 2, 3, 4, 5 за 1957 г.) — Я. Запрудніка і на кніжку Р. Якемчука «Лінія Кэрзона і II сьветавая вайна» — А. Марговіча.

Як даведваемся, падрыхтоўваецца да выданьня нумар 6-ы «Беларускага Зборніка» ў ангельскай мове ды № 9-ты — у беларускай мове.

# Польская журналістка аб долі Беларусаў пад Польшчай

**(Заканчэньне з 11-ай бачыны)**

традыцыі й можа захаваць сваю нацыянальную апрычонасьць. Разьвіваньне культурнай працы, апіраючыся на гэтыя традыцыі, прабуджаньне нацыянальнай сьведамасьці й гордасьці — гэта заданьні Таварыства. Праца ня лёгкая, бо, як ужо ўспамінаў, зьвязаная з узроўнем жыцьця жыхарства беларускага паходжаньня, ягоным нізкім інтэлектуальным разьвіцьцём, спрычыненым недаразьвіцьцём школьніцтва ды агульнай эканамічнай адсталасьцяй гэтых раёнаў. У першых гадох пасьля 1945 году былі зьліквідаваныя ўсе беларускія школы, цяпер аднаўляныя. Чакае нас шмат працы.»

☆

...Беларускія вёскі. Азначаныя двума сымбалямі: купалам і крыжам. Беларускія хаты. Жывуць у іх спакойныя людзі. Заходжу ў хаты, усюды вельмі гасьцінна вітаная... Ветлівыя гаспадыні выцягваюць з нутра прадонных скрыняў вынікі працы доўгіх зімовых вечароў: цудоўныя абрусы, дываны зь лёну й воўны, тканыя саматужна ў самыя розныя казкава каляровыя ўзоры. Усё народнае мастацтва, праца гэтых залатых рук, мала ведамых вясковых артыстых, зайграла вясёлкамі колераў. І так амаль у кажнай хаце. Прыгэтым, чым бліжэй гораду — тым больш кепскага мяшчанскага смаку.

Беларуская вёска, гэта аднак ня толькі прыгаство народнага мастацтва, гэта таксама амаль нясустраканая прымітыўнасьць гаспадарскіх прыладаў. Тут агульна ўжываюцца праславянскія жорны; «старынныя» — прызнаюць, быццам сарамліва ўсьміхаючыся, самі гаспадары; ступы, у якіх яшчэ часта самі таўкуць ячмэнныя крупы, ды й шмат іншых навочных доказаў эканамічнай адсталасьці беларускай вёскі, аб чым гаварыў дыр. Майсеня.

☆

Вырваць людзей зь цемнаты, у якой яшчэ знаходзіцца шмат беларускіх вёсак — амбітная праграма Беларускага Грамадзка-Культуральнага Таварыства. Такім чынам, перадусім — ліквідацыя анальфабэтызму, падняцьце ўзроўню навучаньня ў беларускіх школах, пры адначасным збольшаньні іх колькасьці; дабіцца свайго прадстаўніка, знаючага добра праблемы нацыянальнай меншыні, у Міністэрстве Аасьветы; імкнуцца, каб абсальвэнты беларускіх школаў, пасьля заканчэньня вышэйшых студыяў, вярталіся на гэтую зямлю ды вучылі ў беларускіх школах; разбудаваць сетку бібліятэк; адраджэньне народных традыцыяў беларускай культуры...

Шмат яшчэ чаго трэба зрабіць на беларускай вёсцы. Варта аднак памятаць аб тым, што ўсялякае разьвіцьцё ейнага эканамічнага жыцьця узалежнена ад наладжаньня добрасуседзкіх і прыязных дачыненьняў між Палякамі й Беларусамі.

Галіна Астроўская

### НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd, London, S. W. 6.

**АРГЕНТЫНА:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina,** Calle Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, p-cia Buenos Aires.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St. Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Moroz,** 109 Morrison Rd, Midland Junction, Western Australia.
**Mr. M. Palashuk,** 14 Steel St., Spotswood-Melbourne, Vic.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**C. Cimafiejcyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mr. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinois.
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave. Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mrs. N. Akula,** 57 Riverdale Ave. Toronto, Ont.

**НОВАЯ ЗЭЛЯНДЫЯ:**
**Mr. Marian Karanieuski,** 88 Hercules Drayve, Roxburg — Hydro.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Mr. V. Mickievič,** 47, Bd de Bezons Sartrouville (S. et O.).
**Mr. M. W. Kastelan,** 2, Rue Galvani Roubaix (Nord).

БАЦЬКАЎШЧЫНА

Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.

Выдавец: Уладзімер Бортнік

РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.